# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

25 ліпеня 2014 года №30 (1004)


Адна зямля

Мядзел · Астравец · Смаргонь · Вілейка · Ашмяны · Маладзечна · Валожын · Мінск



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Цягнік “Штадлер” зменіць расклад

**МАЛАДЗЕЧНА.** На гэтым тыдні завяршылася анкетаванне пасажыраў швейцарскіх цягнікоў “Штадлер” у напрамку Мінск-Маладзечна. Пасля апрацоўкі атрыманых дадзеных расклад руху цягніка будзе зменены на больш зручны для пасажыраў. Колькасць цягнікоў пакуль не павялічыцца.

### Вёз 56 тысяч руж

**АШМЯНЫ.** Інцыдэнт адбыўся на мытным пасту “Каменны Лог” 13 ліпеня. Незадэклараваны тавар кіроўца вёз у грузавіку “Сканія” з Еўрасаюза ў Расію. У аўтамабілі было “лішніх” 56 тысяч руж і яшчэ 13 тысяч гваздзікоў на 545 мільёнаў рублёў. Кветкі канфіскавалі. Пачалі адміністрацыйны працэс.

### Свята будзе з пенай

**МЯДЗЕЛ.** 26 ліпеня ў райцэнтры пройдзе свята возера. Пачатак – у 16 гадзін на гарадскім пляжы. Выступяць самадзейныя калектывы з Мінскай і Віцебскай абласцей. Таксама на сцэну выйдуць удзельнікі тэлевізійнага праекта “Акадэмія талентаў”, у тым ліку зямлячка **Марына Вярэніч**. Будуць традыцыйныя на свяце возера забавы: водная феерыя, пенная дыскатэка.

### Выклікайце ДАІ

Памер страхавой выплаты пры афармленні ДТЗ без выкліку супрацоўнікаў ДАІ ад ліпеня павялічыўся з 200 да 400 еўра.

**Аддзел інфармацыі.**



# “Пацярпіце, хутка сезон скончыцца”

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю звярнуліся некалькі чытачоў: па начах ім не дае спаць гул матацыклетных матораў.**

**Святлана Пухлякова** жыве па Вялікім Гасцінцы:

– Як толькі гадзіннік паказвае за поўнач, пад вокнамі пачынаецца кананада з дзясяткаў матораў.

**Андрэй Х.** не менш катэгарычны:

– Куды глядзіць міліцыя? Байкеры парушаюць правілы дарожнага руху. Яны перавышаюць хуткасць, ездзяць на адным коле. Няўжо няма абмежавання да моцы гуку?

## Байкер: калі я вінаваты – штрафуйце

**Паша Петрусевіч**, байкер з больш чым 10-гадовым стажам, тлумачыць:

– Хто мае галаву, той не будзе насіцца па горадзе з хуткасцю 200 кіламетраў. А галоўная праблема байкераў – адсутнасць трэкаў, на якіх можна паказаць усю моц свайго “каня”. І яна пакуль невырашальная. Мне шкада тузаць свой матацыкл у горадзе на кожным святлафоры. Байкерскі сезон кароткі. Лета хутка скончыцца, пацярпіце.

Паша кажа, што здаралася, калі яго штрафавалі за перавышэнне хуткасці. Але ён да гэтага ставіцца спакойна. Раз вінаваты – карайце. Хаця ў горадзе стараецца не парушаць правілы. Бо перавышэнне хуткасці на 4 кіламетры ў гадзіну можа мець пагібельны вынік.

Шчыра засмучае Пашу тое, што паміж кіроўцамі аўтамабіляў, матацыклаў і пешаходамі няма паразумення і культуры.

– Калі кіроўцы аўто скардзяцца на матацыклістаў, я думаю, што гэта проста зайздрасць. Аўтамабілісты не могуць дазволіць сабе такую манёўранасць і некаторую перавару падчас руху.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Байкера са стажам Пашу Петрусевіча засмучае адсутнасць трэкаў у Маладзечне.

Старшы інжынер ДАІ па арганізацыі дарожнага руху **Уладзімір Мумрыкаў** тлумачыць, што байкеры не з’яўляюцца для інспектараў вострай праблемай. Яны такія ж удзельнікі дарожнага руху, як і аўтамабілісты. І патрабаванні да іх раўназначныя.

ДАІ рэгулярна ладзіць акцыі па недапушчэнні парушэнняў правілаў дарожнага руху матацыклістамі. Калі гаварыць пра парушэнні, то на першым месцы язда без шлема. Часта матацыклісты ездзяць без пасведчання, з перавышэннем хуткасці, не спыняюцца па патрабаванні супрацоўніка ДАІ.

– За моцны гук, – кажа Мумрыкаў, – мы штрафаваць не можам. Але моц яго сведчыць пра тое, што нешта змянілі ў выхлапной сістэме або глушыльніку. Такі матацыкл не пройдзе тэхагляду. Значыць, байкеры ездзяць без допуску да ўдзелу ў дарожным руху. І кіроўцы іх – праваапарушальнікі.

**Наталля ТУР.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Дзяўчынка сядзіць на бетонным блоку ля рачулкі Оксна побач з інтэрнатам №22.

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Жыхар інтэрната ваюе з ЖКГ

**СМАРГОНЬ. Непрыбранае смецце побач з рачулкай Оксна, разбітыя ходнікі, няскошаная трава і шмат іншага турбуе жыхара Смаргоні.**

Пяць месяцаў мінула з таго часу, як "РГ" пісала пра праблемы інтэрнатаў Смаргоні па вуліцы Маладзёжнай.

Аднак цяпер жыхар аднаго з іх (№22) Эдуард звярнуўся ў рэдакцыю ў чарговы раз. На яго думку, з таго часу амаль нічога не змянілася.

– Рачулку яны пачысцілі! – узрушана гаворыць ён. – Зараз мы з вамі выйдзем на двор, самі ўсё пабачыце.

Мы спускаемся з ганка. Спадар Эдуард звяртае ўвагу:

– Тады нармальнага поручня, якім можна было б карыстацца па прызначэнні, не было. Толькі закладныя стаялі. Цяпер ужо зрабілі.

Да рачулкі збягае дзяўчынка. Яна садзіцца на бетонны блок і звешвае ногі ў ваду. І гэта была б не такая небяспечная забава, каб не разбіты сход да яе. Фактычна, яго ўвогуле няма. На скаце да Оксны ляжаць бетонныя пліты, якія разбурыліся, трэснулі і паміж імі ўтварыліся сметнішчы.

– А вунь зрніце, як адбойнік паставілі, – указвае рукой спадар Эдуард. – І з аднаго боку можна ўваліцца, і з другога.

Аднак адбойнік на мастку над Оксной усё ж стаіць. Пяць месяцаў таму не было ніякага.

Далей жыхар інтэрната вядзе да зараснікаў побач з домам, куды заварочвае Оксна. Трава там ужо ў чалавечы рост. У лютым зірнуць, што там за дрэвамі (а там ляжала шмат смецця), было нашмат прасцей. Цяпер ужо не далезці. Там жа, дзе далезці можна, смецце ёсць, але не шмат.

– Вядома, чысцей стала, але гэта ўсё ліўнямі знесла ў ваду, – упэўнены спадар Эдуард.

Тады ўсю сітуацыю па інтэрнатах каментавала начальніца жыллёва-камунальнага аддзела ЖКГ **Алена Атцецкая**. У тым ліку яна казала, што для інтэрнатаў ужо шмат зрабілі.

– Уцяплілі 5-я паверхі дамоў, усталявалі дзверы з дамафонам, пліты і сантэхніку памянялі і іншае. З апошняга – усталявалі новую сучасную дзіцячую пляцоўку. Бо калі нам перадалі інтэрнаты, яны былі не ў самым лепшым стане, – казала тады яна.

Аднак спадар Эдуард не лічыць, што ўцяплілі згодна з усімі нормамі.

– Падмазалі зверху, уся цагліна прасвечваецца, – кажа жыхар інтэрната. – Адзінае, што стала лепш, – вецер менш задзімае. А сантэхніку дык дакладна ніхто не мяняў. Больш за тое, у мяне ў пакоі электраплiта. Яе нават не заземлілі.

Мы падыходзім да іншага жыхара інтэрната. Ён мые машыну і паказвае на даўно разбітую дарогу:

– Некалькі месяцаў таму да нас у двор старшыня райвыканкама заязджаў. Я спытаўся ў яго, ці будуць калі рамантаваць дарогу. Казаў, ведае, што тут праблема ёсць і што будуць яе вырашаць. Аднак час ідзе, а нічога не мяняецца.

**Настасся РОЎДА.**

## Адказвае ЖКГ

### Адбойнікі

Цяпер Алена Атцецкая тлумачыць сітуацыю наступным чынам.

– Мы ведаем пра ўсе гэтыя праблемы. Адбойнік, які мы паставілі, – гэта часовая мера. Мы ўвесь час дзесьці рамантуем масты, дзесьці рэканструюем. І тут будзе рэканструкцыя. Але не цяпер. У нас жа сёння няма нават праекта на вялікі рамонт. А выкідаць грошы на гэтыя работы, каб пасля ўсё бурыць і рабіць па новай – нерацыянальна. Па просьбе ж жыхара інтэрната мы паставілі адбойнікі.

### Дрэвы

Што датычыцца дрэў, якія стаяць насупраць дома і да якіх выходзіць акно ў спадара Эдуарда. Ён на гэта скардзіўся і хацеў, каб спілавалі яго галіны і стала святлей. Алена Атцецкая была там і бачыла, што дрэвы з іх галінамі не перашкаджаюць жыхарам. Яны знаходзяцца воддаль дома і ад іх нават цень не падае на вокны інтэрнатаўцаў.

### Ходнікі

Алена Рыгораўна згодная, што яны далёка не ў лепшым стане. Аднак цяпер па Маладзёжнай мяняюць цеплатрасу. Усё перакапалі. І новы ходнік побач з інтэрнатам з'явіцца не раней, чым скончацца работы. Пасля будуць добраўпарадкаваць усю вуліцу і дойдзе чарга да яго.

### Смецце ў рачулцы

Прыбраць усё планавалі вясной, распавяла Алена Атцецкая. Але усё зрабіць не паспелі. Былі суботнікі, людзі выходзілі, чысцілі. Аднак смецце ўвесь час з'яўляецца.

### У планах

– У бліжэйшыя трычатыры гады плануем правесці рамонт па ўсіх дварах, – патлумачыла начальніца жыллёва-камунальнага аддзела ЖКГ. – Цяпер мы працуем над давядзеннем да ладу вялікага двара па вуліцы Леніна (дамы №№52, 54, 56, 58). І робім не проста капітальны рамонт, а мадэрнізацыю з расшырэннем парковак, збудаваннем спартыўных пляцовак. Пасля зоймемся цэнтрам горада, вуліцай Савецкай і далей Маладзёжнай.

**Цяпер у смаргонскай ЖКГ шмат работы ў сувязі з хуткім адкрыццём мемарыяльнага комплексу, прысвечанага падзеям Першай сусветнай вайны.**

– Будзем працаваць над гэтымі пытаннямі, – кажа Алена Атцецкая. – Аднак усё па чарзе.

● ГРАМАДСТВА

# Пасля правядзення пікета

**ВАЛОЖЫН. Георгі Каржанеўскі будзе дабівацца паўторнага грамадскага абмеркавання будаўніцтва жылых дамоў на месцы масавай гібелі яўрэяў.**

14 ліпеня ў Валожыне прайшоў пікет грамадзян, якія не пагаджаюцца з тым, што тут, на месцы масавай гібелі яўрэяў у час Другой сусветнай вайны, будуць пабудаваныя жылыя дамы. Аб гэтым "РГ" расказала ў мінулым нумары.

Георгі Каржанеўскі атрымаў адказ на калектыўны зварот 35 грамадзян, які ён паслаў за паўмесяца да правядзення пікета ў рай- і аблвыканкамы.

У звароце яго падпісанты выказвалі заклапочанасць тым, што на згаданым месцы ў Валожыне пачаліся падрыхтоўчыя работы для будаўніцтва жылых дамоў: "Толькі ў лістападзе 1941 года тут было расстраляна або пахавана жыўцом больш за 200 чалавек. Астанкі ахвяраў фашысцкіх расстрэлаў так і не былі перапахаваныя".

Грамадзяне ў сваім лісце патрабавалі неадкладнага спынення будаўніцтва і грамадскага слухання па гэтай праблеме. Сярод патрабаванняў таксама правядзенне археалагічных раскопак на месцы масавых расстрэлаў і перапахаванне ахвяраў з ушанаваннем іх памяці.

У адказе на зварот, які падпісаў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Мінскага аблвыканкама **Алег Маслаў**, сярод іншага гаворыцца, што на тэрыторыі, пра якую ідзе гаворка, аб'екты, якія б былі ўнесеныя ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, няма. Праектныя работы будуць завершаныя ў снежні 2014 года.

У адказе таксама гаворыцца, што грамадскае абмеркаванне архітэктурна-планіровачнай канцэпцыі гэтага будаўнічага аб'екта праводзілася ў адпаведнасці з заканадаўствам у лютым 2014. Інфармацыя аб правядзенні абмеркавання публікавалася ў раённай газеце і на сайце райвыканкама. За час абмеркавання вусных і пісьмовых прапаноў ад грамадзян, юрыдычных асоб і грамадскіх арганізацый не паступала.

Акрамя таго, гаворыцца ў афіцыйным адказе на зварот, праект будаўніцтва квартала прадугледжвае добраўпарадкаванне мемарыяла, які мяжуе з тэрыторыяй забудовы.

"На падставе сказанага лічым нямэтазгодным праводзіць дадатковыя грамадскія абмеркаванні і спыняць будаўніцтва".

Георгі Каржанеўскі, які з'яўляецца адным з ініцыятараў і звароту да мясцовых улад, і заяўнікам пікету, што адбыўся ў Валожыне, мяркуе, што памяці ахвярам вайны, некаторых з якіх фашысты тут закапалі жывымі, пакуль была ўдзеленая недастатковая ўвага і кажа пра тое, што трэба намагацца правесці дадатковыя археалагічныя даследаванні. Папросту, знайсці і ўшанаваць памяць забітых валожынцаў.

Георгі Мікалаевіч сказаў у гутарцы з карэспандэнтам "РГ", што ён будзе дабівацца правядзення паўторнага грамадскага абмеркавання будаўніцтва.

**Даведка "РГ".** Грамадскае абмеркаванне – комплекс мерапрыемстваў, якія праводзіць арганізатар грамадскага абмеркавання і якія забяспечваюць інфармаванне фізічных і юрыдычных асоб аб архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці, а таксама магчымасць выказвання ўдзельнікамі грамадскага абмеркавання свайго стаўлення да рашэнняў, якія закладзеныя ў праектах, у мэтах уліку грамадскіх інтарэсаў і захавання правоў фізічных і юрыдычных асоб (з Палажэння аб парадку правядзення грамадскіх абмеркаванняў у галіне архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці).

**Мікола ГАЙДУК.**

● САЦЫЯЛЬНАЯ СЛУЖБА

# З'явіўся "крызісны пакой"

**ВІЛЕЙКА. Стварылі яго пры тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

Ён прызначаны для аказання дапамогі жанчынам (у тым ліку з дзецьмі), якія знаходзяцца ў крызісным, небяспечным для здароўя і жыцця стане, распавяла псіхолаг установы **Ірына Рэут.**

Гэта тыя, якія падвергліся дамашняму гвалту, сталі ахвярамі гандлю людзьмі, катастроф, стыхійных бедстваў.

Тут дазваляецца знаходзіцца не больш за 10 дзён, аднак гэты тэрмін можа быць падоўжаны ў выпадку неабходнасці.

Звяртацца можна ў аддзяленне сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі цэнтра (*Вілейка, вул. Маркава, дом 49, кабінет №2*) альбо патэлефанаваць па нумары **5-45-31**. Аддзяленне працуе ў будні з 8 да 13 і з 14 да 17 гадзін. Можна кругласутачна звяртацца па нумары **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прадаць ля дарогі ці здаць?

**Колькі вясковец атрымае за літр ягад і грыбоў, ці Цэны, пераведзеныя на літр тавару**

| | Ля дарогі (Мядзел) | На рынку (Маладзечна) | У нарыхтоўшчыкаў (Мядзел) |
|---|---|---|---|
| ЧАРНІЦЫ | 45-50 | 35 | 20 |
| ЛІСІЧКІ | 20 | 20 | ад 8 |

(тысяч рублёў)

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ

● БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

# Лясны бізнес: як зарабіць на ягадах і грыбах больш

**МЯДЗЕЛ. Добрая магчымасць падзарабіць ёсць летам – збіраць ягады і грыбы. Хоць праца нялёгкая, затое кожны дзень – “жывыя” грошы.**

А жыхары прыдарожных вёсак свае даходы могуць яшчэ павялічыць. Не здаваць дары лесу нарыхтоўшчыкам, а прадаваць іх самім. Цэны на міні-базарах уздоўж дарог значна большыя.

Вось адно з такіх месцаў на Мядзельшчыне, ля вёскі Сваткі. У выхадныя тут літр чарніц каштаваў 45 тысяч. Параўнайце, у нарыхтоўшчыкаў давалі толькі 30. І гэта не за літр – за кілаграм. У кілаграме дзесьці літра паўтара ягад. Так што, прадаваць ягады ля дарогі – больш чым ўдвая выгадней.

Літр лісічак прапаноўвалі за 20 тысяч рублёў. А здай нарыхтоўшчыку, атрымаеш ад 25 тысяч за кілаграм (калі перавесці на літры, то прыкладна ад васьмі тысяч за літр).

### У нядзелю – самы лепшы гандаль

– Усяляк здараецца. Бывае, хутка прадасі, бывае, паўдня праседзіш і не прадасі ўсё, – кажуць гандляркі. – Сярод тыдня раскупляюць не так актыўна. Удалыя дні для гандлю – пятніца, субота, нядзеля і панядзелак. У нядзелю – самы лепшы гандаль. Бо калі людзі едуць на Нарач – бяруць літр-два ягад, каб паесці. А ў нядзелю, калі вяртаюцца ў Мінск, то і вядро ягад ці грыбоў могуць купіць. Людзі ахвотна бяруць. Тут жа ўсё свежае: з раніцы збяром – і на дарогу. А на тым базары ў горадзе – пакуль давязуць, пакуль прададуць. У нас і навес для гандлю ёсць.

Бліжэй да Мядзела, ля Шыкавічаў, у выхадныя цэны на лісічкі былі такія, а на чарніцы яшчэ большыя. Літр чарніц – 50 тысяч рублёў.

Гандаль ідзе тут кожны дзень. І не толькі дары лесу прадаюць, але бульбу, ягады з саду ды іншае. Нават маласольныя агуркі можна набыць.

– Людзі бяруць нашы ягады ды грыбы і гавораць: “Тут хоць ведаеш, што яны на месцы сабраныя, а на рынку няведама адкуль прывезеныя”, – дзеліцца Ларыса.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

### Гандляваць можна ва ўстаноўленых месцах

– Грыбы і ягады павінны праходзіць радыелагічны кантроль, – кажа галоўны дзяржаўны санітарны доктар Мядзельскага раёна **Мікалай Паршута**. – Гандляры могуць здаваць іх на аналіз нам у лабараторыю. Але, на жаль, вельмі рэдка хто так робіць.

Нагадаю, што ля дарог нельга гандляваць з зямлі, скрынь, машын, а толькі ва ўстаноўленых месцах. Там і навесы зробленыя.

| Курсы валют НБ РБ | 17.07 | 24.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 260,00 | 10 290,00 |
| Еўра | 13 910,00 | 13 850,00 |
| Злоты | 3 363,16 | 3 348,52 |
| Літ | 4 024,08 | 4 013,18 |
| Расійскі рубель | 298,50 | 296,00 |
| Грыўня | 874,49 | 884,02 |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13880/14000 | 13830/13940 |
| Долар ЗША | 10220/10280 | 10270/10330 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 16.07 | 23.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 137900 | Мясныя павільёны не працуюць з-за гарачыні |
| **Сасіскі**, 1 кг | 62400 | |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 30500 | |
| **Ялавічына** (выразка), 1 кг | 110000 | |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 33000 | **35800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 98700 | **98700** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 14500 | **14000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| **Алей “Масловія”** | 14000 | **14200** |
| **Маянэз**, 200 г | 7500 | **5500** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 9000 | **9000** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 11500 | **9350** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 10000 | **7850** |
| **Капуста**, 1 кг | 4900 | **3800** |
| **Морква**, 1 кг | 9000 | **8650** |
| **Буракі**, 1 кг | 8000 | **7250** |
| **Лімоны**, 1 кг | 26500 | **20850** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16900 | **17900** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 26500 | **19500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 14500 | **11300** |
| **Агуркі**, 1 кг | 11500 | **10250** |
| **Перац**, 1 кг | 16500 | **14500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 37000 | **33000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13500 | **13500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9900 | **8900** |
| **Грушы**, 1 кг (Дзюшэс) | 21500 | **21500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 90000 | **90000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба** маладая, 1 кг | 7000 | **4000** |
| **Сала**, 1 кг | 75000 | **100000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **60000** |
| **Яйкі**, 1 дзясятак | 15000 | **15000** |

ЛІЧБА НУМАРА

**760**

У стольki разоў насельніцтва Зямлі перавышае насельніцтва Беларусі

Іфаграфіка Настассі РОЎДЫ

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Нецвярозых за рулём павялічылася ўтрая

**ВІЛЕЙКА. Д. рызыкнуў сесці за руль п'яным. Цяпер яго "руль" забралі, забаранілі садзіцца за іншы на бліжэйшыя пяць гадоў ды далі штраф – больш за 35 мільёнаў рублёў.**

Крымінальную справу разгледзелі 18 ліпеня на выязным судовым пасяджэнні ў будынку Вілейскага рамонтнага завода.

Месяцам раней, 25 мая, Д. п'яным ехаў па Валынца ў Вілейцы на сваёй "Маздзе 326".

Суд прызнаў яго вінаватым у гэтым злачынстве.

Супрацоўнік пракуратуры Вілейскага раёна, дзяржаўны абвінаваўца, прасіў назначыць яму наступнае пакаранне – два гады абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Таксама прасіў, каб яго пазбавілі права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартным сродкам, на пяць гадоў. Даць штраф – 250 базавых велічынь (37,5 мільёна рублёў). І канфіскаваць аўтамабіль, на якім ехаў нецвярозы кіроўца.

**Адказнасць за кіраванне ў нецвярозым стане можа быць як адміністрацыйнай, так і крымінальнай.**

Суд вынес прыгавор у той жа дзень. І амаль цалкам задаволіў просьбу дзяржаўнага абвінаваўцы. Адзінае, што замест двух яму далі год і шэсць месяцаў абмежавання волі з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

**Вадзім ШУКРЫНАЎ, пракурор Вілейскага раёна.**




**Крымінальная адказнасць пагражае:**

1. За кіраванне ў нецвярозым стане

2. За кіраванне ў стане, выкліканым ужываннем наркотыкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў

3. За перадачу кіравання транспарту асобам, пералічаных у вышэйшых пунктах

4. За адмову ў праходжанні медыцынскага агляду на прадмет устанаўлення стану, пералічанага ў 1 і 2 пунктах

Спектр пакаранняў, прадугледжаных у гэтым артыкуле, дастаткова шырокі, уключае ў сябе таксама і пазбаўленне волі.

● ВЫШУК

## Шукаюць зніклага ўраджэнца і жыхара Украіны

**ВАЛОЖЫН. Дапамажыце адшукаць 37-гадовага ўраджэнца і жыхара Украіны Вадзіма Глушчанку.**

7 чэрвеня каля 00.30 ён выйшаў з вагончыка, які служыў часовым месцам пражывання. Знаходзіўся вагончык у Івянцы па вуліцы Янкі Купалы.

Да цяперашняга часу месцазнаходжанне зніклага не ўстаноўлена.

**Прыкметы:** на выгляд каля 35-40 гадоў; сярэдняга росту (160-174 см); сярэдняга целаскладу; плечы гарызантальныя; твар трохкутны, смуглы, еўрапейскага тыпу; лоб сярэдні, вертыкальны; бровы прамыя, па вышыні сярэдняя; вочы шэрыя; нос прамы, аснова носа гарызантальная; рот сярэдні; вусны сярэдняй таўшчыні; падбародак вертыкальны; вушы сярэднія, па форме авальныя; валасы кароткастрыжаныя, русыя, прамыя; голас глухі, гаворка з украінскім акцэнтам; памер абутку 42-43; ходзіць перавальваючыся; падчас размовы актыўна жэстыкулюе.

Тых, хто валодае інфармацыяй аб месцазнаходжанні Вадзіма Глушчанкі, просім паведаміць у Валожынскі РАУС па тэлефонах: **8-01772-55302, 8-01772-54021** (дзяжурная частка), **8-029-6855302** (Вэлком), **8-029-5076698** (МТС) альбо ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэлефоне **102**.

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ, старшы следчы Валожынскага РАСК.**


**Вадзім Глушчанка, які знаходзіцца ў вышуку.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

### Збіў хлопчыка

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося 16 ліпеня каля 20 гадзін вечара.

23-гадовы маладзечанец на аўтамабілі "Фольксваген-Гольф" ехаў па вуліцы Міру ў вёсцы Раеўшчына. Кірунак трымаў на Маладзечна.

На ўчастку дарогі з закругленнем улева, паблізу дома №2, кіроўца наехаў на хлопчыка.

Той перабягаў дарогу ад дома №1 у бок дома №2, злева направа.

Дзіця атрымала закрытую чэрапна-мазгавую траўму сярэдняй ступені цяжкасці, удар галаўнога мозга сярэдняй цяжкасці, удар мяккіх тканак галавы. Хлопчык у рэанімацыі.

Цяпер Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку.

### Матацыкліст перакуліўся

**МАЛАДЗЕЧНА.** 19 ліпеня ў гадзіну ночы 41-гадовы мужчына на матацыкле "Кавасакі ZX10R" ехаў па вуліцы Віленскай у мястэчку Радашкавічы. Ён рухаўся ў накірунку Мінск–Нарач.

На закругленні дарогі ўлева не ўлічыў тэхнічныя характарыстыкі матацыкла, яго занесла, і ён перакуліўся.

Кіроўца атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму, страсенне мазгоў і пераломам левай прамянёвай косці са змяшчэннем. Яго шпіталізавалі ў траўматалагічнае аддзяленне ЦРБ-1 Маладзечна.

Яго матацыкл на ўліку ў рэгістрацыйна-экзаменацыйным падраздзяленні ДАІ не стаіць. Адпаведна дакументаў і дагавора абавязковага страхавання грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў таксама не было.

Праводзіцца праверка ДАІ.

### ДАІ будзе кантраляваць замаскіравана

**МАЛАДЗЕЧНА.** 25 ліпеня дзяржаўтаінспекцыя праводзіць адзіны дзень бяспекі дарожнага руху. Дэвіз – "Выбірай бяспечную хуткасць".

Ладзяць яго дзеля прафілактыкі аварый, якія адбываюцца з-за перавышэння хуткасці.

Супрацоўнікі ДАІ правядуць скрыты кантроль. Яны сядуць у звычайныя машыны.

Да кіроўцаў прымяняць самыя жорсткія меры адміністрацыйнага ўздзеяння.

### Прымуць экзамены ў матацыклістаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** У суботу, 26 ліпеня, у 8 гадзін раніцы прымуць экзамены па правілах дарожнага руху і практычным кіраванні матацыклам.

Рэгістрацыя ахвотных у Маладзечанскім ДТСААФ па адрасе: *Маладзечна, вуліца Віленская, 64.*

Экзамен правядуць аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС разам з Маладзечанскім ДТСААФ.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

АДПАЧЫНАК

# Звадзіць дзіця ў парк каштуе 300 000 рублёў

**МАЛАДЗЕЧНА. "Рэгіянальная газета" падлічыла, колькі грошай спатрэбіцца бацькам, каб звадзіць сваё дзіця ў гарадскі парк.**

Ад самага ўвахода ў гарадскі парк на вас і вашага маленькага "хачуху", нібы з рога багацця, накінуцца розныя спакусы. Тут працуюць і электрамашынкі, і надзіманыя горкі, і батуты.

Нос зрывае салодкі пах цукровай ваты і папкорну.

Калі дзіця пальчыкам пакажа на ўсе радасці ля ўвахода, дзе свае паслугі прапаноўваюць прадпрымальнікі, будзьце гатовыя да таго, што ваш кашалёк патанее адразу на 80 тысяч рублёў.

У прыватнікаў 5 хвілін на батуце каштуе 15 000 рублёў , 20 000 – 5 хвілін на электрамабілі, 25 000 – надзіманая горка. Маленькі скрутачак папкорну і салодкая вата абыдуцца агулам у 20 000 рублёў.

**Парада "РГ": не спяшайцеся тут пакатаць сваё дзіця на электрамашынках і паскакаць на батуце. У парку гэтыя атракцыёны таннейшыя. 5 хвілін на батуце абыдуцца вам у 10 000. Столькі ж будуць каштаваць 5 хвілін на электраджыпах.**

Работнікі парку паклапаціліся і пра тое, каб выхадны дзень запомніўся не толькі дзецям, але і дарослым. А што можа быць больш запамінальным, чым катанне на катамаране ці лодцы ўсей сям'ёй?

### "Купідон" пакатае за 10 000

За задавальненне пакатацца на катамаране цэлую гадзіну вам давядзецца заплаціць 75 000 рублёў. Калі ж вам хопіць і 20 хвілін, каштаваць гэта будзе 25 тысяч. Калі ўлічыць, што за гэтыя грошы катацца можна чацвярым, гэта зусім танна.

А калі запрасіць усіх суседскіх дзяцей або проста выпадковых знаёмых, можна пакатацца па возеры на загадкавай лодцы "Купідон". 15 хвілін будзе каштаваць 10 тысяч з чалавека.

### У парку працуюць 12 атракцыёнаў

Усяго 12 атракцыёнаў ці ажно 12 – рашаць вам. Калі дзіця пажадае пакатацца на ўсіх, вы заплаціце 150 000 рублёў.

Але... У гэтыя 12 атракцыёнаў уваходзіць чатыры батуты, атракцыён для "дарослых дзяцей" "Зігзаг" і паравозік "Вілоша", на які дарослым уваход не забараняецца.

Падагульняючы сказанае, сума ў агульным чэку за ўсе задавальненні складзе каля 300 000 рублёў. У яе толькі не ўключаныя паветраныя шары, цацкі, марожанае, сок і напоі.

Мяркуем, падлічыць не складана, у якую суму абыдзецца адпачынак у звычайны выхадны дзень у гарадскім парку, калі ў вас двое, трое і болей дзяцей.

У вас ёсць таннейшы варыянт? Падзяліцеся ім з "Рэгіянальнай газетай".

Відэа з парку глядзіце на нашым сайце.

Rh.by

**Наталля ТУР.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

У гарадскім парку юныя "байкеры" гатовыя катацца з раніцы да вечара. Абы ў бацькоў хапіла грошай.

## Ці з'явяцца новыя атракцыёны ў гарадскім парку?

З такім пытаннем мы звярнуліся да начальніка парку культуры і адпачынку **Аляксандра Фалея:**

– У нас сёлета ўжо працуюць два новыя атракцыёны. Гэта механічны веламабілі і экстрэмальны атракцыён "Зігзаг".

Веламабілі ў нас ёсць як на аднаго, так і на дваіх чалавек. Інакш кажучы, атракцыён і для рамантычных вандровак на дваіх, і сямейных катанняў для маці або бацькі і дзіцяці.

Атракцыён "Зігзаг", нарэшце, прайшоў усе іспыты на надзейнасць і гатовы да таго, каб катаць усіх ахвотных пачынаючы з 12-гадовага ўзросту.

● ВЫСТАВЫ

# Піцер жыве ў тэлефоне віляйчаніна

**ВІЛЕЙКА. У аўторак, 22 ліпеня, ураджэнец Вілейкі Віталь Курдэка пастараўся зрабіць усё, каб землякі змаглі адчуць рамантычны дух Санкт-Пецярбурга.**

У выставачнай зале вілейскага музея ішлі відэаролікі і гучалі песні, прысвечаныя гораду на Няве.

Але ж галоўнымі ў знаёмстве з Пецярбургам былі фотаздымкі. Іх Віталь паказаў на персанальнай выставе мабільнай фатаграфіі "На хвалях Піцер FM".

**У Вілейку ён прывёз 25 фатаграфій. Гэта ў асноўным гарадскі пейзаж. Ёсць адна праца да 70-годдзя зняцця блакады Ленінграда.**

– Мне вельмі хацелася распавесці землякам пра Піцер, дзе я цяпер жыву і працую. А таксама пра – мабілаграфію – новы напрамак у фотамастацтве, які становіцца ўсё больш папулярным сярод моладзі і фатографаў-пачаткоўцаў, – тлумачыць мэту выставы аўтар.



Фота Віталя КУРДЗЭКІ.

Адна з прац ураджэнца Вілейкі Віталя Курдэкі, які фатаграфуе мабільным тэлефонам.

### "Мабільны тэлефон вырашае мае творчыя патрэбы"

**– Чаму для фатаграфічнай творчасці выбралі тэлефон?**

– Справа ў тым, што праца адымае ў мяне вялікую колькасць часу. Магчымасці вывучаць прафесійную тэхніку проста няма. Я не сяджу ў офісе, вельмі шмат езджу на сустрэчы. Мабільны тэлефон – гэта той самы інструмент, які не толькі дапамагае мне зарабляць грошы, але і вырашае мае творчыя патрэбы. Мабільная фатаграфія – гэта выдатная размінка для розуму, трэніроўка назіральнасці, уменне бачыць кадр.

На адкрыцці выставы Віталь расказаў прысутным пра творчы шлях у мабілаграфіі. Ад знаёмства з праграмай Instagram да ўдзелу ў выставе "Фотджын з мабільніка" ў Санкт-Пецярбургу, дзе стаў лаўрэатам, і да адкрыцця персанальных выстаў мабільных фатаграфій у Фінляндыі і Вілейцы.

– Многія лічаць, што мабільная фатаграфія – гэта не разнавіднасць мастацтва, а ўсяго толькі мода на аматарскія фатаграфіі, – разважае Віталь. – Існуе меркаванне, што з удасканаленнем тэхнікі жанр "мабільная фатаграфія" канчаткова аформіцца. Аднак пры цяперашняй папулярнасці фота з мабільнага гэты від мастацтва ўсё роўна застанецца індывідуальным. Бо мабільнае фота цэняць перавага за прадмет і незвычайную кропку здымкаў, а не за якасць фота.

Выстава будзе працаваць цягам месяца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Мабілаграфія** – разнавіднасць фотамастацтва, у якой выкарыстоўваюцца электронныя прылады з убудаванай лічбавай фотакамерай: мабільныя тэлефоны, планшэты і іншае.

### 5 пераваг мабільнай фатаграфіі ад Віталя Курдэкі

**1. Скрытнасць**

Можна незаўважна фатаграфаваць дзе заўгодна і што заўгодна. Ніхто ўжо не звяртае ўвагі на чалавека з тэлефонам.

**2. Шчырыя эмоцыі**

Аб'ектыву фотаапарата дастаюцца ненатуральныя паставы, скаванасць, нацягнутыя ўсмешкі. Але камеру тэлефона ніхто не ўспрымае ўсур'ёз – гэта толькі гульня, думаюць людзі. Вось чаму мабільныя фатаграфіі атрымліваюцца такія натуральныя. Вы здымаеце шчырыя эмоцыі.

**3. Трэніроўка**

З мабільнікам зручна трэніравацца перад набыццём сур'ёзнай тэхнікі. Даставайце тэлефон і фатаграфуйце. Калі ў вас з'явіцца фотаапарат, вы лёгка і хутка яго асвоіце.

**4. У прамым эфіры**

Фотаздымкі зручна апрацоўваць прама на тэлефоне. Ёсць мноства прылад і сайтаў, у якіх вы накладзеце прыдатны эфект і выкладзеце фота ў сацсетку.

**5. Нізкая якасць як перавага**

Недахопы выявы становяцца яе перавагамі. Блікі, зярністасць і іншыя артэфакты – асаблівасці мабільнай фатаграфіі, якія часам аказваюцца вельмі дарэчы. Вы можаце зрабіць цудоўны здымак камерай звычайнага недарагога мабільніка. Трэба эксперыментаваць з лініямі і формамі, святлом і колерам, людзьмі і іх выразнасцю. Працаваць перш за ўсё над зместам кадра!

● ГІСТОРЫЯ

# У баі сышліся рускія і нямецкія салдаты

## На Мядзельшчыне рэканструявалі падзеі Першай сусветнай

**МЯДЗЕЛ. "Ух ты! І зброя сапраўдная, і дым сапраўдны", – седзячы на плячах у бацькі, каментаваў хлопчык.**

А назіраў ён за ваенна-гістарычнай рэканструкцыяй "Нарачанскі набат". Праходзіла яна ў суботу ля вёскі Пасынкі ўпершыню.

– Ідэя падобнага мерапрыемства з'явілася летась, – прыгадвае дырэктар Мядзельскага музея народнай славы **Святлана Чарняўская**. – На адной з нашых выстаў пабываў гісторык з Мінска **Сяргей Захараў**. Прапанаваў правесці на Мядзельшчыне рэканструкцыю баёў Першай сусветнай. Расказаў, што і месца цудоўнае для яе ведае – ля Пасынак. Ідэю падтрымаў райвыканкам.

Удзельнічалі прадстаўнікі клубаў і груп ваенна-гістарычнай рэканструкцыі з Мінска, Брэста, Гомеля, Барысава – усяго каля 30 чалавек.

Яны на "вышыні 217" паказалі рэканструкцыю трох эпізодаў на ўсходнім фронце ў часе Першай сусветнай вайны – у тым ліку, і Нарачанскай аперацыі.

Людзей сабралася шмат. Дружна фатаграфавалі, як ішлі ў наступленне рускія салдаты і абараняліся нямецкія – некаторыя дзеці так былі ўражаныя ўбачаным, што нават крычалі: "Давай, наперад!" "Страчыў" кулямёт, "узрываліся" гранаты. А калі сціхалі стрэлы, наладжвалі перамір'е, "параненым" аказвалі дапамогу "сёстры міласэрнасці". Урэшце, завяршылася ўсё братаннем.

На свяце гледачы маглі набыць сувеніры, прысвечаныя Першай сусветнай. Вялікую ўвагу, асабліва ў дзяцей, выклікалі нямецкія доты – іх каля Пасынак хапае. Шмат ахвотных было сфатаграфавацца з рэканструктарамі і іх зброяй.

– Рэгулярна праводзім фэст па Першай сусветнай у сядзібе Нямцэвічаў у вёсцы Скокі, – дзеліцца Сяргей з клуба "Рубеж" з Брэста. – Прыехалі сюды, бо трэба падтрымаць арганізатараў. Першае мерапрыемства заўсёды цяжка арганізаваць: сабраць удзельнікаў, гледачоў. І хай бы яно стала традыцыйным.

Удзельнічаў у рэканструкцыі госць з Расіі **Іван Бутакоў** з клуба "Сібірскі стралок". Ён якраз быў у гэтыя дні на Мядзельшчыне ў складзе дэлегацыі з Іркуцка.

**– Як вам нарачанская рэканструкцыя?**

– Вельмі добра, душэўна. Малайцы, хлопцы, усё прадумалі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

У часе ўсёй рэканструкцыі гледачы не выпускалі з рук фотаапараты і мабільнікі.

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.



**166**

**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце Rh.by**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591 |
| Ашмяны | - 01593 |
| Валожын | - 01772 |
| Вілейка | - 01771 |
| Маладзечна | - 0176 |
| Мядзел | - 01797 |
| Смаргонь | - 01592 |

**Рэгіянальная газета.** Rh.by **ТРАНСПАРТ**

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск



## ВІНШАВАНКА

**З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ! КАВАЛЁНАК Зоі Вікенцьеўне з Маладзечна**

*Ты чудо-хозяйка,*
*прекрасная мать,*
*Нельзя ни добавить, нельзя*
*ни отнять!*
*Забота – в крови,*
*ты любовью полна,*
*Красивой и мудрой на свет рождена!*
*Спасибо, родная, ты наш оберег,*
*В любую погоду – в жару,*
*в слякоть, в снег!*
*Ты солнышко наше,*
*ты наш амулет,*
*Желаем тебе долгих,*
*радостных лет!*
*А также счастья, радости, тепла,*
*Безграничного добра,*
*И успехов в каждом деле,*
*Всё, что начала, – успела,*
*Улыбайся, улыбайся*
*Никогда не огорчайся,*
*Будет всё у тебя всегда,*
*Не коснется тебя беда!*

**Мама, муж, сын.**

**Регистрация анкет на визы:**
**польские национальные** (по приглашению, карте поляка) и **шенген** (покупки, деловая, служебная, водители).
**Т. МТС (8-029) 254-25-42, МТС (8-029) 585-16-86, МТС (8-029) 277-01-60. reganketki.com**
ООО «ЧудоСлавия» УНП 591009814



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Альфа Рамэа-145, 1998 г.в., 1,9 ТД, тэрмінова, 3300 у.а., торг. Т. (8-044) 4844783, (8-029) 7843899.*

• Аўдзі-80 Б-4, 1994 г.в., 2,0 і, газ-бензін, 205000 км, шэры металік, літыя дыскі, электралюк, стэрэамагнітола-СД, MP-3, USB, усе расходнікі замененыя, без жукоў, камплект дыскаў у падарунак. Т. МТС (8-033) 6048324.

• Аўдзі-80, 1984 г.в., 1,6 Б, седан, зялёны металік, добры стан, 1700 у.а., торг. Т. (8-01592) 91747, (8-029) 9628899.

• Аўдзі-100, 1985 г.в., газ-бензін, 2200 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Аўдзі-100, 1986 г.в., 2,0 дызель, шэры металік, ц/з, шклопад'ёмнікі, г/у, выдатны стан, 3500 у.а., торг, Нарач, Мядзельскі р-н. Т. (8-029) 3213069.

• ВАЗ-2106, 1989 г.в., тэхагляд, страхоўка, светла-зялёны, новая АКБ, гума, 400 у.а., без торга, тэрмінова, Вілейка. Т. (8-029) 8594524.

• ВАЗ-2123, Ніва Шэўрале, 2005 г.в., серабрысты металік, прабег 90000 км, ідэальны стан, 7000 у.а., Мядзел. Т. (8-029) 7573638.

• ВАЗ-2121, 1982 г.в., 1700 у.а. і ВАЗ-21213, 2002 г.в., 3700 у.а., Мядзел. Т. (8-033) 6392514, (8-029) 1357003.

• БМВ 524 tD E34, 1988 г.в., ідэальны стан, 4500 у.а., без торгу. Т. МТС (8-033) 6633986.

• ВАЗ-2101, 1978 г.в., 1000 у.а. Т. (8-029) 7755978.

• ВАЗ-21013, 1983 г.в., белы, тэхагляд да ліпеня 2015 г. Т. МТС (8-029) 7681151.

• ВАЗ-2108, 1987 г.в., 650 у.а. Т. МТС (8-029) 8754074.

• ВАЗ-2108, 1992 г.в. Т. (8-029) 1403843, (8-029) 5034089.

• ГАЗ-24 "Волга", бензін, чорны. Т. МТС (8-029) 5722940, Вэлком (8-029) 6466652.

• Гольф-2, 1985 г.в., 1,6 бензін, серабрысты, літыя дыскі, 1700 у.а. Т. (8-029) 6213642.

• Кіа Рыа, 2001 г.в., 1,5 Б, эл/пакет, кандыцыянер, у выдатным стане. Т. (8-029) 7733702.*

• Мазда-626, 1991 г.в., аб'ём 2,0, хэтчбэк, прабег 350000 км, ц/з, эл/пакет, 1500 у.а., тэрмінова. Т. (8-029) 2696118.

• Мерседэс W 124, 1989 г.в., 2,0 дызель. Т. (8-033) 6006798.

• Мерседэс W-124, 1989 г.в., 2,5 дызель, 605 матор, добры стан, 4600 у.а., торг. Т. (8-029) 5738839.

• Мерседэс Бэнц, 1999 г.в., 2,2 СДІ, універсал, кліма, айрбагі, эл/шкло. Т. МТС (8-033) 3341100.*

• Мерседэс Спрынтар-312, 2,9 ТДІ, сіні, 8+1, пасажырскі. Цана дагаворная. Т. (8-029) 6855111.*

• Мерседэс-124, 1985 г.в., 2,5 Д, у добрым стане, 4000 у.а. Т. (8-029) 7755978.

• Нісан Альпіра, 1997 г.в., 1,4 і, седан, бардовы, кандыцыянер, літыя дыскі R 13. Т. МТС (8-033) 6359172, МТС (8-033) 6311959.

• Нісан Пікаса, 2009 г.в., аб'ём 1,0, 4300 у.а., торг. Т. (8-029) 9375102.

• Нісан Прымера, 1997 г.в., 1,6 Б, зялёны, 4650 у.а. Т. (8-044) 5983017.

• Нісан Прымера, 1998 г.в., 2,0 турбадызель, універсал, чырвоны, Маладзечна. Т. (8-029) 2549311.*

• Опель Астра, 1993 г.в., 1,7 Д, белы, універсал, сігналізацыя, ц/з, л/дыскі, фаркоп. Т. МТС (8-029) 2500527.*

• Опель Зафіра, 2000 г.в., 2,0 дызель, белы. Т. МТС 7746313.

• Опель Корса, 1996 г.в., 1,2 бензін, 3-дзверны, серабрысты металік, падушка бяспекі, г/у руля, 3100 у.а. Т. Вэлком 6231633.

• Пежо-306, 1998 г.в., 1,5 дызель, бардовы, універсал, 5200 у.а., торг. Т. (8-029) 8731084, (8-029) 1597470.

• Пежо-306, 2001 г.в., 1,9 дызель, чорны універсал, без праблем. Т. (8-029) 3020248.

• Пежо-607, 2002 г.в., 2,2, серабрысты металік. Т. МТС (8-029) 7586761.

• Ровар-45,2000 г.в., 2,0 ТД, МКП, хэтчбэк, зялёны, 5500 у.а. Т. (8-029) 3383950.

• Рэно Лагуна, 2001 г.в., ДСІ, серабрысты металік, 6450 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3586217.

• Рэно Сцэнік, 1997 г.в., 1,9 ТДІ. Т. МТС (8-029) 8607032.*

• Рэно-19 па запчастках. Т. МТС (8-029) 5552284, Вэлком (8-029) 1412921.

• Рэно-21 па запчастках, дызель. Т. (8-029) 7755978.

• Рэно-21, 1988 г.в., 1,8 бензін, выдатны стан, 1500 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Сітраэн С5, 2005 г.в., 1,6 НДІ, белы, хэтчбэк, выдатны стан, 10000 у.а., торг. Т. (8-029) 7041136.*

• ФВ Джэта, 1988 г.в., добры стан, шэры, 2500 у.а. Т. МТС (8-033) 6606711, (8-0179) 738444.

• ФВ Джэта, 1990 г.в. Т. (8-029) 1403843, (8-029) 5034089.

• ФВ Пасат Б-6, 2007 г.в., універсал, серабрысты металік, л/д+зімняя гума, 14650 у.а., Валожын. Т. (8-029) 6304389.*

• ФВ Пасат В4, 1994 г.в., 1,8 бензін, універсал, цёмна-сіні, фаркоп. Т. (8-029) 9696500.

• ФВ Т-4, 1995 г.в., 2,4 Д, максібаза, пасажырскі. Т. (8-029) 5033382.*

• Форд Сіера па запчастках. Т. (8-029) 6578681.*

• Форд Фіеста, 1992 г.в., 1,3 бензін, у выдатным стане, 1600 у.а. Т. (8-029) 6194636.*

• Форд Фіеста, 2008 г.в., 1400 куб.см, АКПП, ідэальны стан. Т. Вэлком (8-029) 3731999.

• Форд Сіера, 1989 г.в., 2,0 Б, 1200 у.а., тэрмінова, Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Форд Сіера Люкс, АКПП, 2,0 Б, 1600 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Фіят Пунта, 2004 г.в., 1,9 ТД, усе опцыі, акрамя скуры, 5750 у.а., тэрмінова, Маладзечна. Т. (8-029) 7767357.

• Франтэра (Ландтвінг), 2005 г.в., 2,5 г/б. Т. (8-044) 4937826, (8-033) 3414399.

• Шкода Актавія, 2009 г.в., 1,4 бензін, у выдатным стане, усё, акрамя скуры, 2 камплекты гумы. Т. (8-029) 6887462.*

• Скутэр HORS-054. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Скутэр "Самурай", чорны з салатавым. Т. (8-029) 7043970.*

• Будка-ізатэрма на Газэль ці як бытоўка на дачу, нядорага. Т. (8-033) 6650561, (8-0176) 772330.*

• Гума дыяметрам 16, 205x65, С. Т. (8-029) 7653562.

• Запчасткі Аўдзі-80 В3. Т. МТС (8-029) 5686869.*

• Запчасткі Гольф-3. Т. Вэлком (8-029) 6154346.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Запчасткі ФВ Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*

• Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.

• Шынамантажнае абсталяванне, аўтапад'ёмнік, кампрэсар, выдатны стан, за ўсё 2800 у.а., тэрмінова. Т. (8-029) 9355568, (8-029) 8716226.*

• Шыны летнія, 195/65/R15 "Нокіян", 4 шт. (новыя). Т. (8-029) 1702313.*

• Шыны б/у для матаблока. Т. МТС 5567016, Вэлком 3897016.*

### КУПЛЮ

• **А/М, ДАРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

• А/м **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС** у любым стане. Т. (8-033) 6008152.*

Услуги
**ЭКСКОВАТОРА-ПОГРУЗЧИКА**
на базе МТЗ 92П, 2011г.в.
*Все виды земляных работ*
Тел. **(8-029) 263-26-63**
ИП Ремша А.А. УНП 691289898

**АВТОЗАПЧАСТИ**
Автолампочки, аккумуляторы, аксессуары, автошины, автохимия, подвеска, фильтры, масла и многое другое
Магазин АВТОМИР
РАБОТАЕМ 9[00] - 19[00] БЕЗ ОБЕДА
НОВЫЕ И Б/У В НАЛИЧИИ И ПОД ЗАКАЗ СЕГОДНЯ НА СЕГОДНЯ
МОЛОДЕЧНО, КОСМОНАВТОВ, 8 (общежитие, вход со стор. стоянки)
(01773) 6-99-11
(029) 6158468
(029) 2639702

■ **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
■ **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
■ **Проверка и регулировка СО, СН;**
■ **Заправка и ремонт кондиционеров;**
■ **Замена ГРМ;**
■ **Диагностика и ремонт подвески;**
■ **Запчасти** в наличии и под заказ.
Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.
**Шиномонтаж** Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Игл» УНП 690603198



**СТО**
**диагностика, обслуживание, ремонт**
☑ двигатель
☑ подвеска
☑ головки блока цилиндров
☑ форсунки
☑ турбины
☑ рулевые рейки
☑ электрические и электронные системы
☑ развал-схождение
г.Молодечно, ул.Тургенева, 40
**Велком** 553-42-68,
**МТС** 553-42-68, **гор**. 73-18-72
**Запчасти**
**Велком** 542-92-84,
**МТС** 542-92-82
***WWW.STO-MOLODECHNO.BY***
легковые и грузовые авто
высота ворот 3,7 м
ООО «ИнженерТрансСервис» УНП 691298030

Куплю
**ЛЕГКОВОЙ АВТО и МИКРОАВТОБУС**
**в любом состоянии. Дорого. Заберу сам.**
Тел. МТС **(8-029) 548-01-88,** Велком **(8-029) 611-69-99.**
ИП Хоптенко С.С. УНН 790503293

**СТО**
■ Замена ГРМ, сцепления
■ Диагностика ходовой
■ Ремонт ходовой
■ Ремонт глушителя
■ Развал-схождение
■ Автокондиционеры
Тел. в Молодечно **75-75-72**, **(029) 876-51-17, (029) 335-48-04, (029) 64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных
ООО "Авто-Мотор- Плюс". УНП 690552830

**СТО «АртАлексСервис»**
**для легковых авто и микроавтобусов импортного и отечественного пр-ва**

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- двигателей
- подвески
- рулевого управления
- тормозных систем
- сцепления
- механических КПП
- задних балок французских авто

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- замена ремней ГРМ
- замена и ремонт глушителей
- экспресс-замена масла и жидкостей
- снятие и проверка форсунок HDI, CDI

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
Наличный и безналичный расчёт
**АВТОЗАПЧАСТИ** МТС **(8-029) 566-55-46** Велком **(8-044) 566-55-74**
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

**Возим всё!** Услуги **гидро-манипулятора MAN 10 т.**
Велком **(8-029) 367-48-32**
**(8-044) 761-40-59**
МТС **(8-033) 603-15-75**
ООО «Леслентехно» УНП 691882393

**сто КУЗОВ**
sto-molodechno.by
■ *ремонт* ■ *автостекла*
■ *запчасти* ■ *беспокрасочное удаление вмятин*
(8-044) 5949555
(8-033) 3860900
г.Молодечно ул.Элеваторная, 5А
ООО «ИнженерТрансСервис» УНП 691298030

**МЕЧТАЕТЕ О НОВОЙ ТЕХНИКЕ?**
ТОРГОВАЯ СЕТЬ HORS MOTORS
ДИСКОНТ
У НАС ВЫ СМОЖЕТЕ КУПИТЬ:
СКУТЕРЫ ● МОПЕДЫ ● КВАДРОЦИКЛЫ ● МОТОКУЛЬТИВАТОРЫ ● МОТОКОСЫ ● БЕНЗОГЕНЕРАТОРЫ ● СВАРОЧНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ ● МОТОПОМПЫ ● ДВИГАТЕЛИ ДЛЯ МОТОБЛОКОВ МТЗ ● ТАЧКИ СТРОИТЕЛЬНЫЕ
8(033) 660-72-55
ГАРАНТИЯ ● ЗАПЧАСТИ ● СЕРВИС
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ
КРЕДИТ
www.vales.by www.hors-motors.by
г. Молодечно, т.н. «Молодечненская ярмарка, пав.15, 5 ряд»

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

• Матор лодачны электрычны "AUTLAND-1700", б/у. Т. (8-029) 7004377.

• Млын самаробны, 220-380 Вольт. Т. (8-029) 6897866.

• Набор каструляў "Цэптар", сямігсloйнае дно. Цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 8648634.*

• Свініна. Т. (8-029) 6597228.*

• Трохрамачная медагонка, б/у, пад рамку 435х280. Т. (8-029) 2510119.

• Сукенка вясельная, 1 раз б/у, вельмі прыгожая, колер шампань, памер 46-48. Т. (8-044) 7283621 Велком.*

## КУПЛЮ

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 6434740.*

**Музінструменты**

• Акардэон, вытворчасць Германія. У любым стане. Т. (8-029) 1439224.*

**Жывёлу**

• **КОНЕЙ, ЖАРАБЯТ, БЫКОЎ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, ДОРАГА.** Т. (8-029) 2465555, (8-029) 2464941.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРНЫЯ, СТАРЫЯ, ВІНТАЖНЫЯ РЭЧЫ.** Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, 6, "Антыкварная лаўка", каля старога рынку. Т. (8-029) 2042518 МТС, (8-029) 1483047 Велком.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ! ДОРАГА! КУПЛЮ!** Манеты, мэблю, ордэны, самавары, іконы, статуэткі, гадзіннікі, брошкі і інш. Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ІНШАЕ

• Дадатковы заробак "Ваша Магчымасць" прывядзе да поспеху. ІП Філіповіч Ю. С. УНП 690692606. Т. (8-029) 5615380, (8-029) 1827606.

• Бізнес шукае, прыходзьце, "Вы можаце значна больш". ІП Філіповіч Ю. С. УНП 690692606. Т. (8-029) 8245376.

• Малады тытулаваны кабель мопса запрашае сяброўак на злучку. Т. (8-029) 7832432, (8-044) 5790105.*

• **СЕЗОННЫ РАСПРОДАЖ САДОВАЙ ТЭХНІКІ Ў КРАМЕ "ДАЧНІК", Г.МАЛАДЗЕЧНА, ВУЛ.В.ГАСЦІНЕЦ, 71. СКІДКА 25%.** Т. (8-0176) 764249.

• Шукаю спадарожнікаў ў Хмяльніцкі, Беласток. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

• Аддам кацянят у добрыя рукі. Т. (8-029) 5049221.*

• Ласкавых кацянят аддам у добрыя рукі, Маладзечна. Т. (8-0176) 730588.*

• **АРГАНІЗАЦЫЯ РЭАЛІЗУЕ ДРОВЫ КОЛАТЫЯ**, цана 1600000 руб. за 6 навальных метраў. ТАА "Прарыў-7". УНП 691174526. Т. МТС (8-029) 5720925.*

• **СЕЗОННЫ РАСПРОДАЖ НАСЕННЯ Ў КРАМАХ "ДАЧНІК". СКІДКА 50%.** Т. (8-0176) 764249, (8-0176) 771281, (8-0176) 740577.

## ЗГУБЛЕНА

• 23.07.2014 г. у электрацягніку Мінск-Маладзечна быў згублены заплечнік з асабістымі рэчамі і дакументамі. Таго, хто знайшоў, прашу вярнуць за ўзнагароджанне. Т. МТС (8-029) 5648002, Велком (8-029) 1406439.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Аўтакарбюратаршчык сістэмы запальвання, ГРМ шукае работу або падпрацоўку, Маладзечна. Т. (8-029) 5615614.

• Мужчына, вышэйшая адукацыя, кіроўца катэгорыі В, трактарыст А, В, шукае пастаянную работу, форма аплаты любая, Маладзечна. Т. (8-029) 5063343.

• Дахі і фасады пад ключ. Т. (8-029) 2641389.*

• Дапамагу ў распілоўцы дроў. Т. МТС (8-029) 2609392.*

• Мантаж, дэмантаж дахаў, падшыва, вадасцёкі, афарбоўка дамоў, фасады. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Якасная аддзелка кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

• **БУЙНОЙ БУДАЎНІЧАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ПАТРАБУЮЦЦА СПЕЦЫЯЛІСТЫ: ПЛСКАРДОНШЧЫКІ, МАЛЯРЫ-ТЫНКОЎШЧЫКІ, ПЛІТАЧНІКІ, ПРАРАБЫ (НАЧАЛЬНІКІ ЎЧАСТКАЎ).** Т. (8-01716) 50702.

• Масажыст шукае работу. Т. Велком (8-029) 9756978.*

• На СТА патрабуюцца аўтаслесар, паліроўшчык, спецыяліст па замене аўташкла, арматуршчык, каларыст. Досвед працы абавязковы. Магчыма навучанне. Высокая аплата працы. ТАА "ІнжынерТрансСэрвіс". УНП 691298030. Т. (8-029) 6149849, (8-029) 7767774.*

• Патрабуецца сядзелка па догляду за хворай жанчынай, магчыма з пражываннем у Маладзечна, вул.Машэрава. Т. (8-029) 6773685, (8-029) 6600245.*

ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ

# Ад генерала да дворніка:

## Камандзір баёў пад Смаргонню, які жадаў кія Калініну і Керанскаму

*Працяг. Пачатак у №29.*

**СМАРГОНЬ. Рускі генерал і Геогіеўскі кавалер Яўген Энвальд на працягу некалькіх летніх месяцаў 1917 года быў звязаны сваім лёсам з нашым краем.**

А вядомая спявачка і актрыса французкага рускага паходжання Марына Уладзі – яго ўнучка.

### Салдаты зарагаталі ў адказ Калініну

Вярнуўшыся вечарам на станцыю Залессе, яго сустрэў начальнік дывізіі Яўген Энвальд, які паведаміў, што прадстаўнікі многіх армейскіх камітэтаў "пастанавілі не наступаць".

Керанскі адмовіўся ад прапанаванай дадатковай сустрэчы з прадстаўнікамі гэтых камітэтаў, паведаміўшы:

– Мне з імі няма пра што размаўляць.

Толькі адзін капітан з яго "світы", камісар Заходняга фронту Калінін, зрабіў спробу паўторна ўгаварыць салдат наступаць.

Нервовая, нязвязная і пустаслоўная агітацыя, нетактоўнасць у адносінах да афіцэраў, якія стаялі побач, скончылася апошнім заклікам камісара:

– Дык што ж, дарагія таварышы, я павінен перадаць нашаму любімаму міністру – будзем наступаць?

– Будзем, – пачуўся з цемені ночы адзіночны голас і рогат салдацкага натоўпу.

### Энвальд пра Калініна "Во дык шэльма"

У адрас Калініна генерал Энвальд адразу заўважыў:

– Вось дык шэльма, будзе потым гаварыць, што ўгаварыў іх наступаць, будзе пісаць у газетах, што настрой войска рэвалюцыйна ўзняты і гэтак далей. Эх, палка ім патрэбная, а не ўгаворы!

Яшчэ больш драматычна склалася аперацыя па прарыву ўчастка нямецкага фронту ад 7(10) да 10(23) ліпеня 1917 года. Наступленне чатырох палкоў дывізіі было прызначанае на ўчастку ад вёскі Шалудзькі (сёння Светач) да вёскі Кунава. Цяпер на гэтых пазіцыях пралягае шаша Р-95 Смаргонь – Крэва.

Ад моста праз раку Оксна да паўднёвага ўскрайку вёскі Шалудзькі ў акопах размясціліся салдаты 112-га пяхотнага Уральскага палка дывізіі.

Далей, з левага боку да безназоўнага ручая, месца занялі байцы 110-га Камскага палка. А па суседстве з імі да вёскі Кунава – штурмавы батальён і 109-ы Волжскі пяхотны полк. Першапачаткова 111-ы пяхотны Данскі полк быў адведзены ў тыл.

Камандны бліндаж генерала Энвальда знаходзіўся на працягу ўсёй аперацыі ў гаі на поўдзень ад вёскі Шутавічы, і на працягу ўсіх дзён наступлення палявы штаб дывізіі быў пад няспынным артылерыйскім і ружэйным абстрэлам праціўніка.

### "Ніхто не выйдзе з акопаў"

На пачатку наступлення, для падаўлення артылерыйскіх і кулямётных пунктаў праціўніка, па пазіцыях немцаў вядзецца моцны артылерыйскі абстрэл.

Дзіўная рэч, камандзір Камскага палка просіць у начальніка дывізіі спыніць артылерыйскі агонь, які быццам бы "такі моцны, што шкодна ўздзейнічае на іх, камандзіры батальёнаў не ручаюцца за ўчастак, калі агонь не будзе спынены".

І амаль у той жа час члены ротнага камітэта іншага палка сцвярджаюць, што ў момант атакі загараджальны агонь недастатковы і накіроўваюць сваіх дэлегатаў для тлумачэння іх здагадак у артылерыйскі бліндаж дывізіі.

Салдаты 112-га палка 9 ліпеня не дапускаюць сапёраў да пракладання праходаў у драцяных перашкодах, нават пагражаючы адкрыць па іх агонь.

**Толькі пасля таго, як начальнік дывізіі прыгразіў адкрыць па іх артылерыйскі агонь, пытанне вырашаецца.**

У гэты дзень начальнік дывізіі Яўген Энвальд дакладаў у штаб корпуса:

– Стан духа войска такі, што надзеі на поспех няма – мяркую, што ніхто не выйдзе з акопаў.

### Салдаты масава ідуць у тыл

Салдаты масава пачынаюць пераходзіць з займаных пазіцый у тыл. Каб прыпыніць самавольныя дзеянні, бліжэй да передавой прысунулі палявыя кухні, а салдатам зачыталі апошні загад Керанскага.

У загадзе гаварылася аб прыняцці ўсіх мер супраць вайскоўцаў, якія ўцякаюць, аж да выкарыстання супраць іх зброі.

Для гэтага вучэбнаму батальёну загадалі заняць неперарыўным ланцугом з кулямётамі акопы на ўсход ад дарогі Перабранавічы – Кеўлы.

Выканаўцам загаду патрабавалася затрымліваць уцекачоў з поля бою і накіроўваць зноў на пазіцыі. У выпадку адмовы і непадпарадкавання – выкарыстоўваць зброю.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**
**Заканчэнне будзе.**



Фота зафіксавана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Генерал Яўген Энвальд.




Фота зафіксавана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Керанскі на аглядзе 28-й пяхотнай дывізіі.

КАЛЯНДАР

**25 ліпеня.** 30 гадоў таму памёр Уладзімір Караткевіч (1984), народны пісьменнік Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

***

**1997 год.** Памерла Наталля Арсеннева, паэтэса, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Пахаваная ў Рочэстэры (Нью-Ёрк).

***

**26 ліпеня.** 1993 год. Рашэннем Нацыянальнага банка Беларусі ў краіне спыненае абарачэнне савецкіх грошай і ўведзеная нацыянальная валюта – беларускі рубель.

***

Нарадзіўся Леанід Савёнак (1897 – 1974), пісьменнік. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (1917). У 1921 - 1929 гадах працаваў ў рэдакцыі газеты "Савецкая Беларусь". Выдаў кнігу памфлетаў і фельетонаў "Чароўная іголка" (1929). 1 верасня 1933 года рэпрэсаваны, сасланы ў Сібір, паля ў Комі АССР. У 1939 годзе вярнуўся на Беларусь. Настаўнічаў. У час вайны друкаваўся пад псеўданімам Л.Крывічанін на старонках розных выданняў. З 1944 года – у эміграцыі. Жыў у Германіі, працаваў дырэктарам беларускай гімназіі ў Остэргофене. З 1950 года – у ЗША. Рэабілітаваны 16 жніўня 1956 года.

***

**1997 год.** У Мінску пачаўся Другі з'езд беларусаў свету, доўжыўся 26-27 ліпеня.

***

**27 ліпеня.** 230 гадоў з дня нараджэння Дзяніса Давыдава (1784 – 1838), удзельніка вайны 1812 года, рускага паэта, ваенна-гістарычнага пісьменніка. Прымаў удзел у вызваленні Маладзечна ў снежні 1812 года.

***

**115 гадоў** з дня нараджэння Станіслава Ваўпшасава (1899 – 1976), аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобласці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза.

***

**28 ліпеня.** 70 гадоў з дня вызвалення (1944) Брэста ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Завяршэнне вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

***

**1812 год.** Нарадзіўся Юзаф Крашэўскі (Варшава), польскі пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч. Апісваў свае падарожжы па Беларусі, побыт яе жыхароў.

***

**29 ліпеня.** 80 гадоў з часу заснавання (ліпень 1934) Віцебскага медыцынскага інстытута, цяпер Віцебскі дзяржаўны медыцынскі універсітэт.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як просты сантэхнік змагаецца за нацыянальную ідэю

## Уладзімір Лазарэнка з Маладзечна адрадзіў беларускую пароду паляўнічых сабак, і не толькі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра нашага сённяшняга госця нават яго жонка кажа, што ён нарадзіўся ў сабачай будцы.**

Пра першую беларускую пароду паляўнічых сабак, пра нашу нацыянальную ідэю – у размове з кінолагам, паляўнічым, старшынёй рэспубліканскай камісіі па пародзе беларускі ганчак **Уладзімірам Лазарэнкам.**

– Паляваннем я захапляюся з дзяцінства, – кажа Уладзімір. – Не было мне ў дзяцінстве лепшай забавы, чым узяць з раніцы сабаку і пайсці з ім у лес. Адкуль гэта ў мяне? Напэўна, кліч продкаў, крыві.

Уладзімір Лазарэнка не проста паляўнічы. Для яго мае прынцыповае значэнне ведаць гісторыю і культуру беларускага палявання, выконваць традыцыі, зберагаць тое, што калісьці было ў нашых продкаў.

– Ва ўсіх паляўнічых іншых краін ёсць сваё вітанне, – распавядае Уладзімір. – Я пачуў гэта, калі быў на паляванні ў Польшчы, і падумаў: "Чым мы горшыя?" Тады і прыдумалі з **Міколам Шаўчуком**, паляўнічым, яго многія ведаюць як дзеда Бекаса, заснавальнікам гурта, што выконвае паляўнічую рагавую музыку "Бекас", сваё вітанне. Цяпер на паляванні з калегамі-паляўнічымі мы вітаемся так: "Хвала лесу!" У адказ павінны пачуць: "Хвала!"

**– І якое паляванне без сабакі?**

– Так. Тым больш, ведаеце, якая ў беларусаў цудоўная традыцыя палявання? Усе вострыя пытанні вырашаліся падчас палявання. Успомніце Радзівілаў. Хто ведае, якія важныя рашэнні былі прынятыя пры нефармальных абставінах? Як тут без вернага памочніка?

Сабакамі Уладзімір захапляецца, здаецца, усё жыццё. Таму не дзіўна, што, перачытаўшы мноства літаратуры, пераглядзеўшы шмат старых фотаздымкаў, на якіх былі продкі сучаснага беларускага ганчака, для Уладзіміра стала справай гонару адрадзіць тых сабак, з якімі, магчыма, і палявалі Радзівілы ды іншыя магнаты і шляхціцы на нашых землях.

– Беларускага ганчака ў паэме "Песня пра зубра" ўзгадвае Мікола Гусоўскі. Але з цягам часу парода гэта знікла. Калі я ў 2005 годзе на пасяджэнні Беларускага таварыства паляўнічых прапанаваў аднавіць пароду сабак, усе, хто там быў, засмяяліся. І ўсе як адзін сказалі: "Навошта нам беларускі ганчак, калі ёсць руская, эстонская, літоўская парода гончых?"

Калі ж пароду зарэгістравалі, галоўны кінолаг таварыства **Тацця Чумакова** стала называць ганчакоў нашым нацыянальным гонарам. Вось так мы і жывём, народ чужой радасці.

### У нас жывы ген абыякавасці да сябе

**– Што гэта значыць?**

– Беларусы ўмеюць ганарыцца тым, што ёсць у іншых. А сваё, роднае, раздаюць усім, каму не лянота. Узяць тыя ж слуцкія паясы. Пачалі іх рабіць у Слуцку, потым падарылі тэхналогію і Польшчы, і Расіі. Таму, калі гаворка заходзіць пра нацыянальную ідэю беларусаў, я мяркую, што гэта вельмі не проста, бо ў беларусаў жывы ген абыякавасці да сябе. У нас такая гісторыя, а мы запазычваем усё ў іншых.

Вось я з гэтым, як магу, змагаюся. І пароду сабак адстойваю, і гімн паляўнічых разам з Міколам Шаўчуком напісалі. Мікола Шаўчук і форму для свайго гурта прыдумаў і пашыў.

### На паляванне ў абы-чым хадзіць нельга

**– Мае прынцыповае значэнне, у якое адзенне апрануты паляўнічы?**

– Для мяне ўсё мае значэнне. Паляванне – гэта не забойства звера, гэта рытуал, лад жыцця. Таму важна, ува што ты апрануты, у якім капелюшы ідзеш у лес.

Мне, напрыклад, на дзень нараджэння дорацць розныя атрыбуты, звязаныя з паляваннем. На юбілей падарылі вельмі дарагі, сапраўдны капялюш паляўнічага, капялюш спецыяльны, з чырвоным абадком, каб абазначаць сябе ў гушчары лесу.

У мяне аднойчы быў выпадак, які мяне пакрыўдзіў да глыбіні душы. Быў я ў гасцях у сябра, ён быў апрануты ў нейкае рабочае адзенне колеру хакі. Выйшаў на двор скаціну пакарміць. Вяртаецца і кажа: "Эх, шкада курткі, выпадкова разадраў яе спераду". На што жонка майго сябра адказала: "Добра, зашыю, на паляванне цягаць будзеш". Нельга так.

**Нават мелодыя на тэлефоне ва Уладзіміра паляўнічая. Гучыць паляўнічы ражок, які трубіць пабудку да палявання.**



Уладзімір Лазарэнка (у цэнтры): "Забітай жывёліне спачатку трэба аддаць павагу: пакласці яе на правы бок і зайграць у ражок".

**– Якіх яшчэ паляўнічых рытуалаў вы трымаецеся?**

– Калі забіваеш звера, абавязкова трэба пакласці яго на правы бок, побач пакласці травіну, якую звер адкусіў апошні раз у сваім жыцці, потым абавязкова зняць капялюш, прыкласці яго да свайго сэрца. Абавязкова заіграць у паляўнічы ражок. Гэтым самым аддаецца павага жывёліне. Гэты рытуал – культура беларускага палявання, якой у нас цяпер не хапае.

**– А не шкада жывёл забіваць?**

– Не. Яшчэ па маладосці вельмі хацелася пранесці сваю здабычу на плячах праз усю вёску, паказаць, вось я зайчыка забіў ці качку. З гадамі гэтае пачуццё прайшло. Цяпер не хочацца забіваць проста так. Таму палюю пераважна на дзікоў.

Вось за іх папуляцыяй якраз трэба сачыць. Бачыце, што атрымалася, калі сталі іх разводзіць паляўнічыя свінафермы ў лесе для паляўнічых з іншых краін? Чуму афрыканскую разнеслі.

**– А мяса ўсіх жывёл ясце пасля палявання?**

– Амаль усіх. Лісіцу толькі не ем. Яе не ядуць нават сабакі, вельмі мяса смярдзіць. І дзікоў абавязкова трэба аддаваць ветэрынарам на агляд. Яны ж ядуць усякае паскудства.

### Я заводчык добры, жонку ўзяў беларускую

Уладзімір Лазарэнка нарадзіўся зусім не ў сям'і паляўнічага, як гэта магло падацца на першы погляд , а ў сям'і трактарыста.

Нарадзіўся ў тады яшчэ Маладзечанскай вобласці ў засценку Бездань непадалёк ад Астраўца.

– Тое, што мяне з дзяцінства вабяць сабакі і паляванне, я тлумачу толькі клічам крыві. Дзед мой быў пчаляром, а прадзед – паляўнічым. У Безданах, з дзяцінства памятаю, па суседстве з намі жылі паляўнічыя. І бабуля мая, каб я не лазіў да іх, пужала мяне: "Вось будзеш там лазіць, цябе Галас (сабака) Русецкага з'есць!"

А мяне больш палохаў трактар бацькі, чым суседскія сабакі. Памятаю, усе мае сябры чапляліся да бацькі на трактар, прасілі пакатаць іх, а я хаваўся ў хаце, накрываўся падушкай і чакаў, калі бацька



Беларускі паляўнічы ганчак са здабычай.

ка заглушыць матор.

Потым Уладзімір (тады яго называлі толькі Владакам і не інакш) браў сабаку і ішоў у лес. Таму не дзіўна, што калі прыйшоў час выбіраць прафесію, Владак адназначна заявіў, што будзе ляснічым.

– Выхоўваў мяне бацька разам з мачахай. Яна, калі пра гэта даведалася, пачала ойкаць. "А божачкі, што за прафесію выбраў, у нас жа ў леснікі ідуць адны прапойцы. Будзеш хадзіць разам з імі, п'янстваваць". Адгаварыла, карацей. Я паехаў паступаць у тэхнічнае вучылішча ў Вільні.

Цяпер я ўдзячны сваёй мачасе. Вось думаю, каб яна мяне тады не адгаварыла, атрымаў бы спецыяльнасць ляснічага. Сядзеў бы ў кабінеце і баяўся паварушыцца, як многія нашы чыноўнікі. А так вось стаў простым сантэхнікам, апантаны ідэяй вярнуць, адрадзіць, стварыць.

**– Як сям'я ставіцца да вашага захаплення?**

– У дзяцінстве ўсе лічылі, што я не зусім нармальны. А жонка звыклася. Спачатку спрабавала скардзіцца, што я сярод ночы праз яе пералажу, бяру стрэльбу і іду на паляванне, потым прывыкла. Гэта ж на ўсё жыццё. І я ёй за гэта вельмі ўдзячны, што яна ніколі не ставіла мяне перад выбарам: жонка ці паляванне. І ў тым, што я імкнуся адрадзіць пароду беларускага ганчака ёсць таксама заслуга маёй жонкі.

**– Вы доўгі час жылі ў Вільні. Жонку там сустрэлі?**

– Не, я заводчык добры. Жонку ўзяў беларускую, мясцовую, – усміхаецца Уладзімір.

### Хачу ў старасці піць віно і глядзець на сабак

**– Пра што марыце цяпер?**

– Працую над тым, каб нашага беларускага ганчака ўключылі ў міжнародную класіфікацыю парод. Але гэта вымагае шмат умоў. Па-першае, трэба, каб у пародзе было больш за 1000 здаровых сабак. Цяпер іх недзе каля 400. А потым ад моманту рэгістрацыі да зацвярджэння павінен прайсці тэрмін у 5-10 гадоў да таго, як пароду зарэгіструюць.

Калі ўсё атрымаецца, то самым вялікім для мяне задавальненнем будзе прыйсці на выставу гончых, узяць з сабой столік і крэсла, якія раскладваюцца, дастаць з сумкі бутэльку дарагога добрага віна, наліць сабе ў келіх і глядзець на маіх ганчакоў.

**P.S.** Развітваючыся з Уладзімірам Лазарэнкам, я ўсё ж спыталася, ці ёсць тое, пра што ён шкадуе, што не атрымалася зрабіць у сваім жыцці.

Адказ Уладзіміра быў адказам сапраўднага паляўнічага, ды і якога адказу трэба было яшчэ чакаць:

– Усё жыццё шкадую толькі аб тым, што так і не змог здабыць у сваю калекцыю ваўка. У пакоі вісіць чучала ваўка, але ж падоранае. А з гэтым зверам у лесе я сустрэўся толькі раз. Ён ішоў акурат на майго сябра. А па паляўнічых законах нельга страляць без чаргі. Сябар стрэліў і прамахнуўся. Тады двойчы стрэліў я, але таксама міма. Воўк вельмі хутка бег. Вось, напэўна, аб гэтым і шкадую.

**Наталля ТУР.**
**Фота забяспечанае Уладзімірам ЛАЗАРЭНКАМ.**

**Даведка "РГ".** Уладзімір Лазарэнка нарадзіўся 26 ліпеня 1955 года на Астравеччыне. Скончыў тэхнічнае вучылішча ў Вільні. Грамадзянін Літвы і Беларусі. У 2008 годзе пад ягоным кіраўніцтвам Беларускім кіналагічным таварыствам прыняты стандарт пароды беларускі ганчак. Працуе сантэхнікам. Жыве ў Маладзечне.



Братэрства музыкаў і паляўнічых. Аляксандр Лазарэнка з сабакам, крайні справа – Мікола Шаўчук (дзед Бекас).



Уладзіміру Лазарэнку на гэтым здымку 23 гады. Сабака нязменна побач.



Дуэт. Уладзімір іграе на ражку, сабака "спявае".




Трэніроўка хакейнай каманды "Дынама-Маладзечна" пачалася а 11 гадзіне раніцы. Градуснік ужо паказваў каля 30 градусаў. Але на плане трэніроўкі гэта ніяк не адбілася. Гульцы цягам двух з паловай гадзін выконвалі загады трэнера Дзмітрыя Краўчанкі (на здымку справа).

ХАКЕЙ

# Знікла трывожнасць – мяняй прафесію

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 9 ліпеня ў Маладзечне праходзяць трэніроўкі новай хакейнай каманды "Дынама-Маладзечна".**



Некалькі разоў на тыдзень 33 багатыры разам са сваім "Чарнамором", трэнерам **Дзмітрыем Краўчанкам**, у спёку і ў дождж па дзве з паловай гадзіны два разы на дзень праводзяць трэніроўкі і ў зале, і на лёдзе, і на стадыёне, і проста на траве за Лядовым палацам.

**– Як вам Маладзечна?**

– Цудоўна. Праўда, горад вельмі гасцінны. Канешне, ёсць некаторыя цяжкасці, але гэта адыходзіць на іншы план. Ведаеце, у Маладзечне цяжка знайсці кватэру.

Цяпер Дзмітры займаецца пошукамі жытла. З часам плануе перавезці сюды ўсю сваю сям'ю.

Старыя раёны Маладзечна нагадваюць Дзміртыю родны горад Новакузнецк. Але пакуль на першым плане, прызнаецца Дзмітры, стаяць не бытавыя клопаты, а стварэнне каманды, якой будзе не сорамна выступаць за горад.

**– Адбор у каманду ўжо завяршыўся?**

– Пакуль працэс ідзе. У стартавай заяўцы ў нас ідуць 25 хакеістаў, на трэніроўкі пакуль ездзяць 33-34.

**– Рашаючы голас ваш? Калі вы адмовіцеся працаваць з гульцом, яго ў каманду не возьмуць?**

– Я не магу адмовіцца працаваць з гульцом. У нас дзейнічае спартыўны прынцып. Хто паказвае вынік, той гуляе ў камандзе. Па мерках беларускай экстраліглі ў нас у камандзе зорак, канешне, няма. Але мяне будзе засмучаць толькі тое, калі гулец не будзе выкладвацца на 100%.

У камандзе "Дынама-Маладзечна" самаму малодшаму гульцу 19 гадоў. Ёсць спартсмены, якім ужо 28. Але пераважна хакеістам 20-22 гады. Самы ўзрост для заваявання хакейных вяршынь, – лічыць Дзмітры Краўчанка.

**– Вы працавалі і з дзіцячымі камандамі, і з гульцамі з досведам? Ад працы з кім атрымоўваеце большае задавальненне?**

– Мне цікава працаваць з рознымі гульцамі, рознага ўзросту. Адзінае, што магу сказаць дакладна: трэнер перастае быць трэнерам, калі губляе трывожнасць. Супакоіўся – трэба мяняць працу. У мяне пакуль трывожнасць ёсць: за каманду, за першую гульню, за ўвесь першы сезон цалкам. І гэта добра.

**– Якія задачы вы ставіце перад сабой і камандай на першы сезон?**

– Задача каманды – падрыхтоўка гульцоў для больш высокай кваліфікаванай каманды. Мяркую, нам не сорамна будзе выйсці на лёд.

**– Дзмітры, а не шкада будзе аддаваць сваіх выхаванцаў у больш кваліфікаваную каманду?**

**Першая дамашняя гульня каманды "Дынама-Маладзечна" адбудзецца 9 жніўня. Таварыскі матч маладзечанцы згуляюць з хакейным клубам "Брэст". Уваход на гульню вольны.**

– Для мяне як для трэнера важны вынік. Калі твой выхаванец ідзе далей, гэта не можа выклікаць ніякай зайздрасці ці рэўнасці. Толькі радасць і задавальненне ад таго, што ты, трэнер, усё зрабіў правільна.

У маладзечанскіх хакеістаў, лічыць Дзмітры, ёсць вялікі стымул, каб аддаваць гульні ўсё сваё ўменне і талент. На кон пастаўлены пераход у каманду "Дынама-Мінск".

**– У адным з інтэрв'ю вы сказалі, што поспех каманды на 90% складаецца з веры ў тое, што няма сапернікаў, якіх нельга перамагчы.**

– Няма такіх сапернікаў. Пераканаецеся ў гэтым на гульні.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

## Расклад матчаў "Дынама-Маладзечна" ў Кубку Беларусі

Выступленне на групавым этапе розыгрышу Кубка Беларусі падапечныя Дзмітрыя Краўчанкі пачнуць гульнёй з "Шахцёрам". Сустрэча адбудзецца 20 жніўня ў Салігорску.

22 жніўня ў госці да "Дынама-Маладзечна" завітае мінскае "Юнацтва", а праз два дні, 24 жніўня, – хакейны клуб "Ліда".

Пасля двух дамашніх гульняў наша каманда адправіцца на выезд. Спачатку, 27 жніўня, сустрэнецца з "Гомелем", а 29 жніўня – з "Магілёвам".

Фінал Кубка Беларусі адбудзецца 31 жніўня.

ФУТБОЛ

# Капітан "Віліі" Алег Гулевіч: "Мы – як дваровая каманда"

**ВІЛЕЙКА. Ужо тры месяцы "Вілія" чакае новую форму, а пакуль гуляе ў старой. І карціна атрымліваецца маляўнічая:**

– Выходзім на поле. Майкі ва ўсіх аднолькавыя, а трусы і гетры розныя: сінія, белыя, чорныя. Атрымліваецца, не гарадская каманда, а як не ведаю хто – як дваровая, – не хавае расчаравання капітан "Віліі" **Алег Гулевіч. –** Ды і маек ужо мала засталося. Перад гульнёй збіраемся і высвятляем, колькі іх у нас, каб 11 чалавек былі апранутыя. Калі замену робім, зусім цікава атрымліваецца.

– Гулец, – тлумачыць Алег, – сыходзіць з поля, здымае з сябе майку і аддае таму, хто выходзіць на замену. Суддзі папярэджвалі, што могуць такую замену і не дапусціць.

Па словах Алега, у канцы красавіка ў райвыканкаме абяцалі, што дапамогуць набыць новую форму. Аднак дагэтуль яе няма.

– Камплект формы на каманду каштуе шэсць мільёнаў рублёў, – кажа ён. – Палову гэтай сумы аплацілі "Буддэталі". А другую палову ніхто не аплачвае. Тэлефануем у райвыканкам, нагадваем – а формы ўсё няма.

Іншыя каманды выходзяць на поле ў аднолькавай форме, усё прыгожа. Адны мы такія. Сорамна!

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" згуляла ўнічыю

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН.** У суботу пачаўся адзінаццаты тур чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. "Маладзечна-ДЮСШ-4" у гасцях не змагло перайграць "Колас" з Чэрвеня. Гульня завяршылася з лікам 0:0.

У другім суботнім матчы "Забудова-2007" прымала "Валожын-2010". Гульцы з Чысці ўпэўнена перамаглі 5:0. Двума галамі ў іх вызначыўся **Вілюга**.

## "Вілія" перамагла каманду з Крупак

**ВІЛЕЙКА.** Чарговы матч чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе "Вілія" праводзіла 20 ліпеня дома. Прымала аднаго з аўтсайдараў – "Крупкі-ДРБУ-164".

Каментуе капітан "Віліі" **Алег Гулевіч:**

– Напачатку не маглі знайсці сваю гульню. Мелі моманты, у штангу трапілі, але гол не забілі. А сапернік адну атаку правёў – і мяч апынуўся ў нашых варотах.

Такім чынам, першы тайм "Вілія" прайграла 0:1. Аднак за палову другога тайма лёс сустрэчы вырашыўся на яе карысць.

– Зрабілі перастаноўкі, **Уладзіміра Макоўскага** ў нападзенне паставілі, – працягвае расповед Алег. – Рытм гульні наладзіўся. Першы гол забіў **Міша Цырук**. Яшчэ двойчы вызначыўся Уладзімір Макоўскі і **Лынько**. І да сярэдзіны другога тайма зрабілі гульню, выйгралі 4:1. І далей дагульвалі спакойна, выпусцілі моладзь на замену.

## "Смаргонь" выйграла: два галы забіў Рындзюк

**СМАРГОНЬ.** Гульня чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе са "Слонімам" завяршылася з лікам 2:1 на карысць "Смаргоні".

Ужо на 19-й хвіліне гаспадары вялі з лікам 2:0 (двойчы вызначыўся **Мікалай Рындзюк**). У другім тайме, на 53-й хвіліне, госці адзін мяч адквіталі.

– Гуляла каманда дастойна, – адзначыў заўзятар "Смаргоні" **Арцём Войтка. –** Рындзюк чарговы раз даказаў, што і ў 37 год можна гуляць на даволі высокім узроўні і забіваць.

**– Пасля забітых ім двух галоў як гульня пайшла: не заспакоіліся смаргонцы?**

– У другім тайме хвілін дзесяць "Слонім" пачаў кантраляваць мяч. Але забілі яны толькі пасля памылкі абаронцы. А ў "Смаргоні" зноў жа **Мархель** мог забіць, і цудоўны ўдар Рындзюка з-пад абаронцы парыраваў варатар! Лік павінны быць як мінімум 4:1.

**– Галоўны трэнер Павел Бацюта ацаніў, што "Смаргонь" перамогу заслужыла. Згодныя з яго ацэнкай?**

– Цалкам згодны!

Але вось у чым не згодны Арцём з галоўным трэнерам, дык гэта з тым, што **Замара** бавіць час на лаве запасных:

– На мой погляд, ён нічым не саступае ў гульнявых якасцях таму ж **Калініну**.

"Смаргонь" цяпер займае восьмае месца ў першай лізе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### З-за сабакі на пляжы ў Асіпавічах пачалася сварка. Ці "пакусаюць" гаспадара за купанне Рэкса або Шарыка?

Сабака – сябар чалавека, і лепшы за чалавека. Сабака ніколі не нагадзіць у ваду, калі купаецца. ***Kuklachov.***

### Што такое ўкраінскі боршч і як яго варыць

Дзякуй, Наталля, за рэцэпт. Абавязкова паспрабую зварыць такі боршч. ***Святлана.***

### Сёння ў Валожыне пройдзе пікет супраць будаўніцтва жылых дамоў на месцы пахавання яўрэяў

Людзі! Адумайцеся. Няўжо ў Валожыне зусім няма больш месца, дзе пабудаваць дамы. Дык вось трэба абавязкова там, дзе расстрэльвалі яўрэяў, дзе яны і пахаваныя. Гэта не што іншае, як зневажальныя адносіны да другога народа. Ды і падумайце, як будуць жыць тыя, хто засяліўся б у гэтыя дамы. І будуць здані не даваць ім спакою. І не кажыце, што гэта глупства. ***Ева.***

Паважаная ЕВА, заклікамі да сумлення тут не дапаможаш. Той, хто вырашыў тут будаваць, пабудуе. Гэта цягнецца яшчэ з савецкіх часоў. Камуністы не маглі штосьці проста так будаваць, ім спачатку трэба было штосьці зруйнаваць. Будаўніцтва светлай будучыні камунізму працягваецца нашчадкамі ленінцаў ды сталінцаў. А як вядома, камунізм фанаты-камуністы будавалі толькі на зруйнаваных святынях і чалавечых касцях! ***Алесь Раткевіч.***

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Шатландскія валанцёры апекаваліся дзецьмі

**ВІЛЕЙКА. Ад 4 да 18 ліпеня ў дзіцячым цэнтры "Надзея" на Вілейшчыне ажыццяўлялі сумесны міжнародны праект.**

Партнёрам стала грамадская арганізацыяй Stand international з Шатландыі.

Адтуль прыехалі 18 валанцёраў пад кіраўніцтвам **Алана Бара**. Займаліся яны забаўляльнай і адукацыйнай працай з дзецьмі. У першай групе было 32 дзіцяці з Нароўлі і Вілейкі.

А ад 14 да 17 ліпеня ў цэнтры аздараўляліся выхаванцы аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва і іх бацькі. Усяго – 10 чалавек.

– Валанцёры з Шатландыі разам з супрацоўнікамі нашага цэнтра ладзілі для іх заняткі ў гуртках, цікавыя гульні, вазілі купацца на Вілейскае вадасховішча, каталі на катамаранах і лодцы, – расказала вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю "Надзеі" **Таццяна Майсак**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 5 | | | | | |
| 3 | | | 4 | | | | 8 | |
| 9 | | | 6 | | | 1 | 3 | 4 |
| 2 | | | | | | 3 | | |
| | 1 | 3 | | 8 | | 5 | 9 | |
| | | 8 | | | | | | 1 |
| 1 | 9 | 2 | | | 5 | | | 7 |
| | 5 | | | | 7 | | | 3 |
| | | | | | 6 | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





Фота Настасі РОЎДЫ.

**Асноўныя скульптуры мемарыяльнага комплексу, прысвечанага падзеям Першай сусветнай вайны, усталявалі ў Смаргоні напрыканцы мая.**

● КУЛЬТУРА

## "Мы паказваем толькі пачатак будаўніцтва"

**СМАРГОНЬ. 1 жніўня ў Смаргоні ў парку Перамогі пройдзе мітынг-рэквіем, прысвечаны 100-годдзю ад пачатку Першай сусветнай вайны.**

За 10 дзён да гэтай даты на месцы будаўніцтва мемарыяльнага комплексу яшчэ шмат працы. Не верыцца, што ўсё можна паспець завяршыць. Аднак гэтага і не варта чакаць.

– Мы праводзім мітынг-рэквіем, а не адкрыццё мемарыяльнага комплексу, – адзначае скульптар **Уладзімір Церабун**, які займаецца гэтым праектам. – Мы паказваем пачатак будаўніцтва. І канцэпцыя комплексу ўжо бачная.

Скульптар адзначае, што працы над першай часткай мемарыяла могуць быць завершаныя ўжо налета. А ўвесь комплекс, разам з другой часткай, што павінна размясціцца ў вёсцы Хадакі, – да 100-годдзя заканчэння вайны, у 2018 годзе.

**Настасся РОЎДА.**

● РЭПЕРТУАРЫ



### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйная камедыя "**Як прыручыць дракона 2**" 3D (ЗША, 2014)
25 ліпеня – у 16:00
Цана білета – 40 000 рублёў

Фантастычны баявік "**Трансформеры: Эпоха знішчэння**" 3D (ЗША, Кітай, 2014, 2 серыі)
26 ліпеня – у 15:30
28 ліпеня – у 18:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Камедыя "**Змешаныя**" 2D (ЗША, 2014)
30 ліпеня – у 18:30
Цана білета – 40 000 рублёў

Прэм'ера. Фантастычны трылер, баявік "**Планета малпаў: рэвалюцыя**" 3D (ЗША, 2014, 2 серыі)
25 ліпеня – у 18:30
27, 30 ліпеня – у 16:00
29 ліпеня – у 21:00
Цана білета – 50 000 рублёў

Прэм'ера. Баявік, прыгоды "**Геракл**" 3D (ЗША, 2014)
25, 28, 30 ліпеня – у 21:00
26, 27 ліпеня – у 18:30, 21:00
29, 31 ліпеня – у 18:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды "**Кароль сафары**" 3D (ПАР, 2013)
26 ліпеня – у 13:30
27 ліпеня – у 14:00
31 ліпеня – у 16:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Прэм'ера. Фантастычны баявік, прыгоды "**Вартавыя Галактыкі**" 3D (ЗША, 2014)
31 ліпеня – у 21:00
Цана білета – 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, 2013)
25-27 ліпеня – у 16:30
Цана білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (ЗША, 2013)
29, 31 ліпеня – у 16:00
30 ліпеня – у 16:30
Цана білета – 15 000 рублёў

Меладрама "**Госця**" (ЗША, 2013)
25-27 ліпеня – у 19:00, 21:30
28-31 ліпеня – у 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік "**Агент пад прыкрыццём**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога).
25-27 ліпеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Баявік "**Ацалелы**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
25-27 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Лясны патруль**" (Нарвегія, без узроставых абмежаванняў)
26, 27 ліпеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
30, 31 ліпеня – у 18:00
Кошт білета – 30 000 рублёў

Трылер "**Трывожны выклік**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
30, 31 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● ГАРАСКОП
(25 – 31 ЛІПЕНЯ)



**Авен.** У вас ёсць шанец атрымаць тое, што вы хочаце. І не трэба лавіць лёс за хвост, трэба дачакацца, каб ён сам павярнуўся да вас тварам.



**Цялец.** Не будзьце легкадумныя, гэта вам не ўласціва. Спрабуйце ўнікнуць у сутнасць рэчаў і зразумець, чаму адно ідзе за другім.



**Блізняты.** Вучыцеся радавацца таму малому, што ёсць у вас, а то вы толькі звяртаеце ўвагу на тое, чаго ў вас няма. З-за гэтага і праблемы.



**Рак.** Калі вы вырашылі, напрыклад, вывучаць штосьці новае, асвойваць новыя сферы дзейнасці, то настаў час. Вы атрымаеце эмацыйнае задавальненне, якое станоўча паўплывае і на іншыя сферы вашага жыцця.



**Леў.** Вы надзвычай патрабавальныя і да сябе, і да навакольных. Ваш дыктатарскі падыход не пакідае месца эмоцыям і пачуццёваму прыманню сітуацыі. Вы думаеце, што ўсе вакол павінны выконваць вашу волю, а чаму – гэта ўжо не важна. У вас паўстане выбар паміж загадам і просьбай.



**Дзева.** Будзьце да сябе больш паблажлівыя, не патрабуйце ад сябе шмат. Пры адстойванні сваіх інтарэсаў праявіце настойлівасць.



**Шалі.** Час падыходзіць для заключэння саюзаў і здзелак, разлічаных на доўгі час.



**Скарпіён.** Пераадолейце ўнутраныя сумненні, якія скоўваюць вас мацней за любыя знешнія перашкоды, выберыце свой шлях і пачніце дзейнічаць – поспех не за гарамі.



**Стралец.** Вам цяпер лепш нічога не прадпрымаць. Гэта перыяд, калі сітуацыя ідзе не так, як вам можа таго хацецца. Чакайце лепшага моманту для дзеяння.



**Казярог.** Не трэба вам прымаць цяпер нейкія рашэнні і спрабаваць камунебудзь штосьці даказваць. Лепш супакойцеся, расслабцеся і радуйцеся таму, што вы маеце. А гэта не так ужо і мала.



**Вадалей.** Вы поўныя пачуццяў і імкненняў, і ваш эмацыйны парыў знаходзіць адлюстраванне ў навакольным свеце. Будзьце эмацыйныя і таварыскія, і гэта дазволіць вам знайсці каханне.



**Рыбы.** Наступае той момант, калі лёс сам вядзе вас па шляху, які вядомы толькі яму, а вам трэба смела ісці следам і не супраціўляцца падзеям, якія будуць адбывацца з вамі. Гэта ваш шанец.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




ISSN 1991–7155

**Камент-эксперт**

**Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень


## НАДВОР'Е

**26 ліпеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +17 +27 | | +17 +28 | | +16 +29 | | +19 +28 | |
| | 744 | ← 3 | 745 | ↖ 2 | 745 | ↑ 3 | 743 | ↑ 5 |
| **Вільня** | +15 +26 | | +16 +27 | | +17 +28 | | +17 +28 | |
| | 753 | ← 3 | 753 | ↖ 2 | 753 | ↖ 3 | 749 | ↑ 4 |

| Тэмпература паветра / Воблачнасць, ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с | |


Усход 5.15
Захад 21.23
Даўжыня дня 16.08


Усход 5.00
Захад 20.32
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- У каталікоў – Якуб (25 ліпеня). Які Якуб да паўдня, такая да снежня зіма. А 26 ліпеня – Ганна. Дождж на Якуба – для жалудоў згуба, а як Ганна з дажджом – дык гарох з чарвяком.
- Дажджлівае лета горш за восень.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў СМАРГОНІ

# Захапленне матацыкламі – гэта хобі ці вар'яцтва?



**Міхаіл Яблонскі, грузчык:**

– Я нармальна стаўлюся да байкераў. Гэта добрае захапленне. Чалавек займаецца, а не п'е. У свой час і я захапляўся і мапедамі, і скутарамі. А потым машыну набыў. Цяпер сам бы хацеў займацца, але фінансы не дазваляюць.



**Павел Пашкевіч, вядучы спецыяліст па маркетынгу:**

– Анекдот. Хірург-траўматолаг тэлефануе ў краму і пытаецца: "Колькі вы сёння прадалі матацыклаў?" У адказ: "Тры". Ён: "Значыць адзін яшчэ ездзіць". Ёсць нармальныя байкеры, а ёсць самагубцы. Для іх важная толькі хуткасць. Пра наступствы яны не думаюць.



**Аляксандр Крыпак, слесар:**

– Хутчэй, хобі. Але як па мне – вельмі небяспечнае. Некалі спрабаваў сесці, але не спадабалася. А як кіроўца аўтамабіля стаўлюся да іх увогуле як да ашалелых. Вядома, ёсць тыя, хто ўмее ездзіць. І мяне такія людзі каталі. Аднак, ведаеце, страшна. Можа, гэта цікава і захапляльна, але не для мяне.



**Алена Кіслая, пенсіянерка:**

– Спачатку гэта хобі, якое потым можа перарасці ў хваробу. Часта гляджу, як яны на дарозе сябе вядуць. Не баяцца за сваё жыццё. Шкода іх як дзяцей. Калі б гэта быў развіты від спорту, каб трасы асобныя былі, то, можа, і нічога. А так яны могуць сабе ў першую чаргу нашкодзіць.



**Яна Урбановіч, інспектар па кадрах:**

– Гэта хутчэй хобі. Ёсць нармальныя кіроўцы. А калі носіцца як невядома хто, то, вядома ж, гэта вар'яцтва. Я разумею, што так яны атрымліваюць адрэналін. Але варта шукаць яго ў іншым. Сама б не села за руль матацыкла.



**Ванда Мікалкевіч, пенсіянерка:**

– Я лічу, што трэба больш працаваць, а не хутказці раз-віваць і экстрым у сабе выпрацоўваць. Калі б яны яшчэ паважалі іншы транспарт і пешаходаў, то, калі ласка. Калі яны едуць – я ў бок адыходжу, страшнавата.



**Кацярына Бурштыновіч, школьніца**

– Гэта небяспечна, я ведаю. Аднак пракаціцца на матацыкле я, мабыць, не адмовілася б.

**Падрыхтавала Настасся РОЎДА.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Для чаго байкер Павел Петрусевіч пасадзіў на матацыкл свайго паўтарагадовага сына, чытайце ў наступным нумары газеты.**

## НАВІНЫ

# Запрашае "Ракуцёўскае лета"

**МАЛАДЗЕЧНА.** 27 ліпеня ў філіяле музея "Фальварак Ракуцёўшчына" пройдзе штогадовае свята паэзіі і песні "Ракуцёўскае лета".

Выступяць вядомыя беларускія пісьменнікі, фальклорныя калектывы, удзельнікі мастацкай самадзейнасці Маладзечанскага раёна.

Пачатак – а 12-й гадзіне.

Калі вырашыце дабірацца электрычкай Маладзечна-Мінск, то ехаць трэба да станцыі Уша.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Моладзь з Івянца заняла 2-е месца на парафіядзе

**ВАЛОЖЫН.** Ад 16 па 19 ліпеня у Івянцы праходзіла пятая парафіяда дзяцей і моладзі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

У праграме былі спаборніцтвы па настольным тэнісе, бегу на кароткія дыстанцыі, міні-футболе, валейболе, пераадольванне паласы перашкод

Таксама кожная каманда прадстаўляла свой рэгіён. Адбыліся конкурсы рэлігійных вершаў і беларускай рэлігійнай песні.

Па інфармацыі catholic.by прынялі ўдзел у парафіядзе каля 150 чалавек.

Найлепшыя вынікі з прадстаўнікоў нашага рэгіёна паказала каманда парафіі з Івянца. Яна заняла другое месца. Трэцяе месца – у моладзі з Беразінскага (Маладзечанскі раён).

**Аддзел інфармацыі.**




**Рэгіянальная газета.** Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 30 (1004) 25.07.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 630. Падпісана ў друк у 10.00 24.07.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.